

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

24 красавіка 1998 г. № 17/3945 Кошт 4 000 руб.



# 23 красавіка — XII з'езд Саюза пісьменнікаў




*Прэзідыум з'езда*

Сёння "ЛіМ" нагадвае сваім чытачам і ўдзельнікам з'езда пісьменнікаў імгненні з'езда папярэдняга, адзінаццатага. Свой даклад на ім старшыня пісьменніцкай суполкі Васіль Зуёнак пачаў тады словамі: "Быць ці не быць творчаму саюзу — гэтае пытанне апошнім часам гучыць з вуснаў некаторых пісьменнікаў... " Прайшло чатыры гады, шмат што змянілася, страцілася, а пытанне засталося і "гучыць з вуснаў некаторых пісьменнікаў" нават часцей, чым гучала. Нешта на з'ездзе трэба вырашыць, каб пытанне гэтае не стала традыцыйным.



*Васіль Вітка, Янка Брыль і Максім Танк*

**Фота Ул. КРУКА**

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Пасля Хрыстовага ўваскрэшання — зноў крыжовая пакута. Гэта 26 красавіка, дзень чарнобыльскай трагедыі, якраз пасля светлага свята Вялікадня... Нічога не здараецца выпадкова, асабліва, калі яно датычыць тысяч ці нават мільёнаў людзей. Значыць, заслужылі...***

***Бог пасылае бяду, Бог і надзею дае. Ці ёсць жыццё пасля смерці? — мабыць, кожны хоць раз у жыцці задае сабе і іншым такое пытанне. Наша найноўшая гісторыя дасць на гэта сцвярджальны адказ: пасля крыжа — Вялікдзень!***

## ДНІ ТЫДНЯ

У Мінску праходзяць Дні культуры Краснадарскага краю Расійскай Федэрацыі. Было б зусім някепска азнаёміць мінскую і ўвогуле беларускую публіку з культурным патэнцыялам усіх рэгіёнаў РФ: ад колішніх японскіх Курылаў да колішняй беларускай Смаленшчыны. Бо калі-небудзь Беларусь разам з іншымі еўрапейскімі краінамі будзе асвойваць неабсяжны расійскі рынак, і лепей загадзя ведаць, чаго там, у Расіі, можна чакаць. Аналіз сацыяльна-культурнай сітуацыі патрэбны не меней, чым доследы ў эканамічнай сферы. Аднак з гэтымі днямі суседа ў нашай хаце няма сістэмы. Дакладней, няма сістэмы, якая б абапіралася на доўгатэрміновы прагноз. У Беларусь прыязджаюць мастакі і танцоры выключна з тых рэгіёнаў, якія альбо наведаў, альбо збіраецца наведаць прэзідэнт РБ. Прычым, рэгіёны гэтыя звычайна маюць не надта добрыя стасункі з Масквою. Такім чынам, у "днях" прысутнічае своеасаблівы палітычны падтэкст. Ды зрэшты, усё гэта не надта істотна. Усё роўна цікава паглядзець на нашчадкаў запарожскіх казакоў, якія пасля таго, як іхняя роля ва "ўз'яднанні Украіны з Расіяй" была выканана, расійская ўлада выселіла з Украіны на Дон і Кубань.

## "РАСКРУТКА" ТЫДНЯ

У Галерэі сучаснага мастацтва тэатра "Вольная сцэна" працуе выстава "Майстэрня N 305". У майстэрні пад гэтым нумарам у Беларускай акадэміі мастацтваў працуюць студэнты чацвёртага курса (кіраўнік Барыс Герлаван), будучыя мастакі тэатра. Гэта Вольга Васілёнак, Дар'я Волкава, Андрэй Меранкоў, Ганна Мятліцкая, Алеся Снапок і Віталь Трафімаў. Палове ўдзельнікаў выставы давялося працаваць не толькі з вучэбнай, але і з "дарослай" сцэнай. А Віталь Трафімаў у мінулым годзе ладзіў персанальную выставу пад назвай "Graffiti" ў галерэі "Шостая лінія". На выставе ў "Вольнай сцэне" эскізы і макеты дэкарацый, эскізы тэатральных касцюмаў, прасторавыя кампазіцыі і жывапіс.

Адкрыццё выставы ўяўляла сабою цікавую тэатралізаваную дзею. Метафара "раскруціць мастака" была літаральна перакладзена на мову мастацкай акцыі, хэпенінга. Удзельнікі выставы з'яўляліся на публіку з вялікага скрутка. А "раскручвалі" іх дырэктар галерэі пры "Вольнай сцэне" Андрэй Вераб'ёў і мастацтвазнаўца Іна Рэут.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Паўліна Качаткова прапаноўвае "паставіць крыж" на пытанні аб пераносе парэшткаў Максіма Багдановіча на радзіму. "На магіле Максіма Багдановіча трэба паставіць крыж" называецца яе артыкул у "Навінах" N 40. Аўтар лічыць, што перапахаванне (па сутнасці, язычніцкая акцыя) супярэчыць хрысціянскай маралі ды, зрэшты, і здароваму сэнсу. Мы сёння ведаем месца пахавання класіка нашай літаратуры вельмі прыблізна, ніхто зараз не можа ўпэўнена сказаць, што менавіта Максім Багдановіч ляжыць пад каменем з гэтым імем.

Дастаткова паставіць на магіле крыж, мяркуе аўтар. "Крыж на магіле прынясе супакой не толькі душы Максіма Багдановіча, але і нам усім".

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Анатоль Казловіч распачаў у "Свободных новостях" цыкл публікацый "Мы ў 1994—2006 гадах". Першая публікацыя мае назву "Скарпіёны і тарантулы". Аўтар разважае пра раскол, які адбыўся ў асяроддзі беларусай інтэлігенцыі па пытанні стаўлення да палітычных рэалій краіны. Анатоль Казловіч называе імёны тых асоб палітычнай эліты, якія, на ягоную думку, непасрэдна вінаватыя ў тым, што здарылася. Досыць падрабязна прааналізавана ўзаемасувязь ідэалогіі, заканатворчасці, "шкурнага інтарэсу" ў рэальнай палітыцы.

## ВЫСТАВА ТЫДНЯ

У Палацы мастацтваў — персаналія Алеся Цыркунова. Жывапісец, сябра суполкі "Пагоня". Творы 80—90 гадоў. Алесю Цыркунову ўласцівы адметны почырк і выразная сацыяльная пазіцыя. Шэраг твораў прысвечаны выдатным падзеям і асобам беларускай гісторыі. Праўда, некаторыя з гэтых палотнаў не пазбаўлены плакатнай просталінейнасці. Галоўная якасць ягонага мастацтва — жывапіснасць у традыцыйным разуменні. Ягоныя палотны — гэта згарманізаваныя колеры. Прычым, гармонію ён здольны перадаць і праз дысананс.

## КІНО ТЫДНЯ

З 19 па 25 красавіка ў Мінску праходзяць Дні шведскага кіно. Імпрэзу ладзіць амбасада Каралеўства Швецыі ў Маскве, Шведскі інстытут, кінавідэастудыя "Таццяна" і Саюз кінематаграфістаў Беларусі. У кінатэатры "Перамога" будзе экспанавацца класіка шведскага кіно і фільмы 1985—1996 гадоў.

## ПРЭМІЯ ТЫДНЯ

Святлана Алексіевіч атрымала на кніжным кірмашы ў Лейпцыгу прэстыжную прэмію. Так адзначана дакументальная проза пісьменніцы. Прэмію "Еўрапейскае ўзаемаразуменне" ўручыў прэзідэнт ФРГ Р. Херцаг.

## СВЯТА ТЫДНЯ

Нацыянальны парк "Белавежская пушча" праводзіў 19—22 красавіка экалагічнае свята "Марш паркаў". Гэта міжнародная прыродаахоўчая акцыя праводзілася ў рамках Дня Зямлі. Супрацоўнікі Нацыянальнага парку спадзяюцца такім чынам прыцягнуць увагу грамадства і грошы спонсараў да прыродаахоўчых праграм.

## ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ

Скульптар Вадзім Вераб'ёў, нядаўні выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў, стварыў помнік князю Гедыміну — заснавальніку Лідскага замка. Скульптура выканана з бронзы. Яе плануецца ўстанавіць на фоне замкавых вежаў. Дарэчы, у Лідзе даўно стаіць помнік Францішку Скарыне (аўтар Валеры Янушкевіч), у той час як у Мінску...



*Н. Пашкевіч, В. Іпатава, Я. Брыль, А. Бутэвіч і М. Танк*

# Сёння з'езд, а заўтра — дзень чарговы

Прапанаваная рэдакцыяй "ЛіМа" перадз'ездаўская анкета выявіла два пераважныя падыходы да правядзення з'езда. Першы: з'езд, не зважаючы на ўсе складаныя абставіны, павінен засяродзіцца на творчых праблемах, павесці прафесійную размову пра літаратуру. Другі: задача з'езда выключна ў тым, каб вырашыць арганізацыйныя пытанні.

Зразумела, што найлепш было б адно з другім сумясціць, але ўціснуцца ў адзін дзень з усімі праблемамі і пытаннямі проста нерэальна. Зусім рэальна ў такім выпадку толькі тое, што з'езд рассыплецца. А значыць, можа рассыпацца ў выніку пісьменніцкі саюз.

"Ну і няхай сабе, які там саюз і што з яго толку!" — меркаванне меншасці.

Выспяваюць таксама асабістыя намеры пакінуць пісьменніцкую суполку, грымнуўшы дзвярыма: больш мне тут з вамі, маўляў, няма чаго рабіць. Наўрад ці паставіцца сёння гэткі жэст некаму ў заслугу. Раней — гэта ўчынак, а зараз — тое самае, што ў лесе пакінуць мясціну, дзе зрэзаны ўсе грыбы.

Большасць за тое, каб саюз захаваць. Большасць узважвае: пры зрэзаных грыбах ці засталася, не затапталася грыбніца? Узважвае, разумеючы, што самадастатковасць літаратара — рэч даволі ўяўная. Самадастатковы, ад усяго і ўсіх літаратар незалежны толькі на полі рукапісу. Крок за межы свайго поля — і ты ў стасунках з рэдакцыямі, выдавецтвамі, тэатрамі, студыямі, агенцтвамі і г.д., міжволі дачыняешся да структур.

У дачыненнях гэтых паміж ранейшымі і цяперашнімі часамі не такая ўжо істотная розніца. Там, дзе нешта сапраўды вырашаецца, найперш ва ўладзе, стэрэатыпы тыя ж: ёсць арганізацыя, структура — ёсць з кім мець справу; няма арганізацыі, дык няма з чым і разбірацца. Пераважна з гэтай прычыны і патрэбны пісьменніцкі саюз — як структура для структур, арганізацыя для арганізацый, калі глядзець на сітуацыю прагматычна, скарыстоўваць яе праз саюз з выгодаю для ўсіх, хто той саюз складае.

Амаль у кожным адказе на пытанні анкеты — прэтэнзіі да сакратарыята і старшыні. На з'ездзе хутчэй за ўсё прэтэнзій тых будзе яшчэ больш, і могуць павытыркацца яны паперадзе ўсяго, запаланіць трыбуну. За апошнія гады саюзам шмат чаго страчана і маральна, і матэрыяльна, але найсмешным было б па даўняй завядзёнцы заняцца праз тое разборкамі з ягоным кіраўніцтвам. Тут той выпадак, калі позна піць баржомі. Дый не выпадала пакуль нікому з кіраўнікоў саюза пайсці са сваёй пасады з падзякай. Папрокамі і нападкамі становішча не выправіць, яно вымагае прадуктыўных рашэнняў, арганізацыйных змен.

У адпаведнасці са статутам з'езду дастаткова абраць калегіяльныя органы і старшыню Саюза пісьменнікаў. Склад сакратарыята, тэхнічныя службы — ягоны далейшы клопат. Прапановы па персаналіях, каб не збіўся хаўрус "сваіх хлопцаў", выносяцца на зацвярджэнне рады, праз раду асобныя "кадры" і вызваляюцца ад ускладзеных на іх абавязкаў. Механізм гэткі сёння відавочна неабходны. Старшыні трэба так развязаць рукі, каб мог ён імі толькі бездапаможна разводзіць: ну што я магу зрабіць, самі ж выбіралі...

Відавочных прэтэндэнтаў на лідэрства ў бюлетэнях для тайнага галасавання па анкеце не пракінулася. Зрэшты, гэтага і не чакалася. Выбар тут за з'ездам — і непадобна на тое, што ён будзе простым. Аднак, калі ўжо з'езд пазначаны фартовай лічбай 12, то пафарціць павінна ўсім: і тым, каго абяруць, і тым, каго не. Невядома, праўда, каму болей. Наперадзе чакае з'езд N13, чортаў тузін, і хто яго ведае, што там станецца з самым фартовым.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**



*Л. Паўлікава, Г. Булыка, А. Канапелька.*



*С. Законнікаў, В. Зуёнак, А. Кудравец і Г. Бураўкін*



*П. Васілеўскі і В. Быкаў*



*Я. Лецка і Г. Марчук*



*Н. Маеўская, А. Масарэнка і М. Падгайны*



*У. Арлоў і Л. Баршчэўскі*

**Фота У. КРУКА**

АБСЯГІ

*ГРОДНА...*

## Дзве прэм'еры

У Слонімскім драмтэатры адбыліся дзве прэм'еры. Рэжысёр Віктар Небальсін паставіў спектакль "Камедыя" па п'есе У. Рудава. Дарэчы, Небальсін нядаўна прызначаны абласным упраўленнем культуры на пасаду галоўнага рэжысёра драмтэатра.

Другой прэм'ерай "Мы ідзём глядзець "Чапаева" па п'есе драматурга з Расіі А. Данілава слонімскіх гледачоў парадаваў заслужаны работнік культуры РБ рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. За ўсю гісторыю тэатра ў Слоніме на гэтай прэм'еры ўпершыню пабывалі першыя кіраўнікі горада і раёна.

## Помнік Льву Сапегу

Канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега з 1586 года быў слонімскім старастам, пакінуў у гісторыі Слоніма вялікі след. Пры ім горад над Шчарай стаў культурным і прамысловым горадам. Тут са студзеня 1597 года праходзілі генеральныя сеймікі ВКЛ, на якія з'язджаліся пасланцы з многіх ваяводстваў. Пры Льву Сапегу Слонім атрымаў свой герб.

Нядаўна гарвыканкам прыняў рашэнне падтрымаць ініцыятыву групы гараджан аб пабудове і ўстаноўцы ў Слоніме помніка Льву Сапегу. Фінансаваць праект пабудовы будзе рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л. Сапегі, чакаюцца і ахвяраванні.

## Музей-майстэрня

Вось ужо 10 гадоў, як у дзіцячым садку N 11 Слоніма дзейнічае "Музей-майстэрня" народнай творчасці". Гэты музей у дашкольнай установе быў створаны адным з першых у рэспубліцы. Таму не дзіўна, што сюды за вопытам прыязджалі калегі з Украіны і з многіх гарадоў Беларусі. Музей стаў на Гродзеншчыне першым цэнтрам выхавання нацыянальнай свядомасці дзяцей. Цікавыя экспанаты, выраблены рукамі народных майстроў, дапамагаюць глыбей пазнаць гісторыю роднага краю, нацыянальныя традыцыі і культуру. Багата прадстаўлены ў экспазіцыі жаночыя строі з розных куткоў Беларусі, ручнікі, дываны, настольніцы, ганчарныя вырабы, прадметы побыту і працы.

**Сяргей Чыгрын**

*ВІЦЕБСК...*

## "Энергетычная вежа"

Швейцарская мастачка, удзельніца Шагалаўскага пленэру Сюзана Бауман днямі зноў наведала Віцебск. Яе прапанова — пабудаваць у цэнтры горада "віцебскую, энергічную вежу", якая б магла прыцягваць станоўчую энергію для росквіту культуры і мастацтва — сустрэла падтрымку ў гарадской мэрыі. Выкананая з металу і каляровага шкла вежа будзе прадстаўляць сабой 30-метровае архітэктурнае збудаванне. Фінансаванне праекта бяруць на сябе члены сям'і М. Шагала. Такім чынам, летам наступнага года над старажытным Віцебскам можа ўзвысіцца энергетычная вежа.

## Сямейны саюз

Валерый і Галіна, Лада і Ілля Магучыя прадэманстравалі на сваім вернісажы сапраўдную магутнасць таленту сямейнага саюза. Валерый — вядомы ў Віцебску скульптар, аўтар помнікаў Еўдакіі Лось, Марку Шагалу — прапанаваў гледачам свае работы з дрэва. Вельмі ўражвае тэхніка і выразнасць творчасці яго жонкі Галіны, якая з саломкі стварае сапраўдны цуд. Яна — медык па адукацыі, але прызванне сваё знайшла ў мастацтве. Дзеці Магучых — школьнікі. Іх малюнкі пастэллю, алоўкам, аплікацыі адрозніваюцца індывідуальнасцю і непаўторнасцю.

## Рэдактар. Фатограф. Мастак. Летапісец

Менавіта так можна ахарактарызаваць вядомага ў горадзе Уладзіміра Базана, які не разлучаецца з фотаапаратам ужо трыццаць год і ўжо дзевяты год выдае папулярную незалежную газету "Віцебскі кур'ер".

Днямі ў Віцебскім мастацкім музеі адкрылася дзевятая персанальная выстава У. Базана пад назвай "Застаюся..." Раней фатограф выстаўляў свае творы ў Мінску, Таліне, Парыжы, Жэневе, Кракаве, Каўнасе.

— Фатаграфія — гэта мастацтва і летапіс. Я пра гэта заўсёды памятаю, калі здымаю, — гаворыць Базан.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## У адзін вечар адзначылі тры юбілеі

Змястоўнай вечарынай адсвяткавалі шматлікія магілёўчане тры слынныя даты нацыянальнай гісторыі — 190-годдзе з дня нараджэння пачынальніка беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча, 160-годдзе Кастуся Каліноўскага і 135-ую гадавіну вызвольнага паўстання на Беларусі.

Распачалася яна пранікнёнай і ўдумлівай прамовай пісьменніка, вучонага, дэкана філалагічнага факультэта мясцовага педагагічнага дзяржуніверсітэта імя А. Куляшова Яраслава Клімуця. А затым гучала патрыятычная лірыка. Свае вершы прачыталі магілёўскія паэты — журналіст Віктар Кунцэвіч, студэнтка універсітэта Алена Колік. Цудоўна прагучаў у выкананні таксама студэнткі педуніверсітэта Вольгі Азаравай і вядомы верш Уладзіміра Караткевіча "Нявесце Каліноўскага".

Магілёўскія барды Сяргей Кулягін, Ігар Мухін-Рабінок праспявалі песні, прысвечаныя паўстанню Каліноўскага, слынным падзеям гісторыі Бацькаўшчыны.

Затым арганізатары вечарыны прэзентавалі засароджанаму слухачу спектакль па п'есе В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта" ў пастаноўцы заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Ермаловіча, які ўзначальвае тэатральную студыю Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры. У ролях былі заняты Я. Клімуць, В. Ермаловіч, М. Бацэвіч, М. Лебедзева, А. Андрэйчыкаў і іншыя.

**Міхась КАРПЕЧАНКА**

*БРЭСТ...*

## Зберагчы памяць гарадоў

Забудова Пінска, Брэста, Кобрына, самых старажытных гарадоў краю, нярэдка вядзецца на шкоду архітэктурным і археалагічным помнікам мінуўшчыны. Да такой высновы прыйшоў абласны каардынацыйны савет па ахове гісталычнай спадчыны на чарговым сваім пасяджэнні з удзелам старшыняў выканкамаў, загадчыкаў аддзелаў культуры, галоўных архітэктараў, дырэктараў музеяў гарадоў і раёнаў вобласці. На пасяджэнні, якое, дарэчы, адбылося ў 900-гадовым Пінску, былі абмеркаваны шляхі паляпшэння рэгенерацыі гістарычных цэнтраў, а таксама адобрана праграма археалагічных даследаванняў на Брэстчыне, падрыхтаваная доктарам гістарычных навук П. Лысенкам, і план выпуску краязнаўчай літаратуры, з якім пазнаёміў начальнік абласнога ўпраўлення па друку Г. Тамашэвіч. Кіраўнік каардынацыйнага савета, старшыня аблвыканкама У. Заламай уручыў узнагароды актывістам ахоўы матэрыяльнай і духоўнай спадчыны роднага краю.

## Вясёлкавы карагод

Закончыўся абласны тур Рэспубліканскага мастацкага фестывалю "Вясёлкавы карагод", арганізаваны Міністэрствам адукацыі краіны для выхаванцаў школ-інтэрнатаў. Выдатна выступілі квартэт дзяўчынак і рытм-хор з Баранавіцкага, юныя аматары фальклору з Камянецкага раёнаў, ансамбль народных інструментаў з Пінска, удзельнікі іскрыстага кірмашовага відовішча з Кобрына, спевакі з Жабінкі, танцоры з Брэста... Прадумана пабудавалі іхнюю праграму галоўны рэжысёр грамадска-культурнага цэнтра Л. Барней і загадчыца інфармацыйна-метадычнага цэнтра маладзёжнай творчасці В. Волкава. Пераможцы абласнога тура атрымалі 20 пуцёвак на тур рэспубліканскі, які пройдзе гэтым летам у былым піянерлагеры "Зубраня".

**Сымон АКСЕНІН**

ІМПРЭЗЫ

# Пастаўка з Анкары

Падзея, якая пэўным чынам сімвалізуе аблічча Рэспублікі Турцыя — дзяржавы свецкай, свабоднай, дэмакратычнай, дзе вялікае значэнне надаецца развіццю культуры і мастацтва. Гэтая думка выказвалася з прамовы Надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэспублікі Турцыя на Беларусі спадарыні Шуле Сойсал, якая выступіла перад пачаткам вытанчана-выбітнай канцэртнай праграмы, прапанаванай таленавітымі выканаўцамі, таксама турэцкімі жанчынамі.

Канцэрт адбываўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі з нагоды святкавання 75-годдзя абвяшчэння Рэспублікі Турцыя. Нашу госцю, флейтыстку Шэфіку Кутлуэр параўноўвалі з першай ластаўкай, якая абвясціла пачатак беларуска-турэцкіх стасункаў у галіне культуры. А ігру яе можна было параўнаць са спевам дзівоснай птушкі — пасланніцы ўзнёслага свету мастацтва. Спадарыня Ш. Кутлуэр іграла натхнёна і хораша: "рытуальную" для флейтыстаў Санату Ф. Пуленка, еўрапеізавана-арыентальную імпрэсію турэцкага кампазітара Э. З. Уна "На магіле Юнуса", найвіртуозны "Карнавал у Венецыі" (тэма з варыяцыямі Р. Жэнэна), рамантычную "Ундзіну" К. Рэйнеке, "Павану" Г. Фарэ і "Кармэн-фантазію" Ф. Барнэ (адмысловы букет, скампанаваны з неўвядальных мелодый оперы Ж. Бізэ). Дарэчы, запіс Ш. Кутлуэр гэтага твора на кампактдыск адзначаны "Залатым прызам" фірмы "Соні".

Наогул жа, наша госця мае бліскучую кар'еру ў музычным свеце: скончыўшы кансерваторыю ў Анкары, працавала ў Прэзідэнцкім сімфанічным аркестры Турцыі, выступала як салістка ў Аўстрыі, Італіі, Галандыі, Германіі, Швейцарыі, ЗША, Англіі, Кітаі, Японіі... Шмат канцэртуе з вядомымі аркестрамі і дырыжорамі, робіць запісы сваіх праграм. Ганараваная лаўрамі міжнародных конкурсаў і найвышэйшай узнагародай урада Турцыі — Прэзідэнцкім медалём.

Два аддзяленні яе мінскага канцэрта — як разматая чарада вобразаў і настрояў, подых Прыгажосці. Прыгожы роўны гук, бліскучая тэхніка, якую нібыта й не заўважаеш... А яшчэ — гармонія дуэта: салістка выступала ў суправаджэнні піяністкі Меліхі Доўдуал-Аўгусційн.

Пасольства Рэспублікі Турцыя на Беларусі выказала глыбокую ўдзячнасць нашаму ўраду, Міністэрству культуры і філармоніі за садзейнічанне ў арганізацыі канцэрта, які, дарэчы, падтрымалі спонсары — шэсць турэцкіх фірмаў. Зала была поўная. Музыканты, дыпламаты, прадстаўнікі кіраўніцтва нашай краіны, палітычныя дзеячы, студэнты... Самыя розныя людзі паядналіся ў сваім захапленні прыгожым мастацтвам і ў пачуцці ўдзячнасці да тых, дзякуючы каму адбыўся гэты канцэрт.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Віртуальная Беларусь

Валянцін АКУДОВІЧ

## ПРЭАМБУЛА

1995 год, Майскі рэферэндум...

Нават беручы пад увагу некарэктнасць (з розных гледзішчаў) прапанаваных на рэферэндум пытанняў і спрэчнасць выніковых лічбаў, немагчыма ўсё ж пярэчыць відавочнаму: для пераважнай большасці беларусаў (тут дакладней будзе сказаць: насельнікаў Беларусі) Беларусь не ёсць каштоўнасцю ні ў выяве мовы, ні ў выяве гісторыі і культуры, ні ў выяве незалежнасці.

Нарэшце "заглянула сонца і ў наша аконца" і мы ўбачылі тое, пра што, будзем шчырымі, даўно ведалі,але чаму раней, асабліва ў нядаўніх прыцемках адраджэнскага ранку, неяк атрымлівалася не даваць веры.

Першыя дні і тыдні пасля рэферэндуму і цяпер, ужо амаль праз тры гады, ніякавата згадваць. "Нацыянальна свядомыя", што тыя совы, якіх дзень заспеў на голай выспе, адно разгублена лыпалі вачыма і безнадзейна сноўдаліся з месца на месца, не ведаючы, куды падзецца ад невыноснага святла... Не ратавалі ні гарэлка, ні распуста...

З адчаю хаваліся ў сябе — там была ноч.

Асабіста мне тады марылася толькі пра адно, каб як мага хутчэй прамінулі гэтыя першыя дні, тыдні, месяцы і "светлая ява" сталася panылай звыкласцю, бо трэба ж было неяк жыць далей, прызвычайвацца да новых стандартаў, спакваля асвойтваць іншую рэальнасць і неўпрыкмет стасаваць да яе рэшткі былых ілюзіяў.

Хаця ілюзіяў, здаецца, амаль не засталося, паколькі мяне не гаіла (як, бадай, многіх) адчайная нянавісць да тых, хто зыніцыяваў і зладзіў рэферэндум; я і ў адчаі выразна ўсведамляў, што не яны стварылі тую сітуацыю, якую мы мелі, - яны толькі скарысталі яе ў сваіх мэтах (ці — што больш верагодна, — яны самі, з усімі сваімі ініцыятывамі, былі "плёнам" гэтай сітуацыі). Але тут рэч *не пра тых, хто скарыстаў сітуацыю, а пра тых, каго скарысталі, а найперш пра тых*, для каго рэферэндум жорстка і бязлітасна выявіў ды прадэманстраваў, што ў нас ёсць і чаго ў нас няма.

Беларусаў трохі ёсць, а Беларусі няма — у сэнсе цэласнага жыццядайнага нацыянальнага арганізму, які б залатрабаваў дзеля свайго развою і бяспекі **нацыянальнай** дзяржавы.

Няма такой Беларусі і цяпер, але і ў будучым яе не бачна, хаця якраз на "будучыню" шмат хто тады спадзяваўся (спадзяецца і зараз): неўзабаве ўсё неяк пераменіцца, да ўлады дапнуць "нашыя" і мы здабудзем памысную Беларусь... (Калі б "нашыя" маглі неўзабаве ці хаця б у бліжэйшай перспектыве займець уладу, то Аляксандр Лукашэнка, з яго не абы-якой палітычнай інтуіцыяй, ужо даўно быў бы "нашым").

Але калі б нават нейкім цудам нешта ўзяло ды кардынальна перамянілася і "нашыя" прыйшлі да ўлады (як прыйшлі б, так і пайшлі б), то што з гэтага не фармальна, а сутнасна зрушылася б у сітуацыі?

Безумоўна, фармальна, вонкава, намінатыўна сёе-тое выдавала б на лепшае ў нашым разуменні лепшага (трохі прыпынілася б русіфікацыя школ, вярнулася б гістарычная сімволіка, што-кольвек яшчэ...), аднак і тая **дэкларатыўна нацыянальная** дзяржава рэальна была б сацыяльнай дзяржавай (дзе нелігітымна панавала б ідэалогія сацыяльных дабротаў, гэта значыць ідэалогія "каўбасы" і курсу долара, а не нацыянальнай культуры, мовы, незалежнасці), і ў той, "нашай" дзяржаве "свядомаму беларусу" было б пэўна гэтак жа няўтульна, як і сёння — а можа, і яшчэ няўтульней, — і на вуліцы, і на службе, і сам-насам, бо і тады ён быў бы ва ўнутранай эміграцыі адносна чужароднага яму соцыуму.

Прыкладна гэтак (слушна ці не — іншая рэч) я разважаў у тыя першыя тыдні і месяцы пасля рэферэндуму...

— Няўжо нам, "свядомым", — думаў я ў падсумаванне, — нічога іншага не застаецца, як пражыць жыццё і памерці чужынцамі на сваёй зямлі, ды яшчэ той самы бяздольны лёс пакінуць сваім дзецям, якія з нашай волі ці нават паўз яе панабіраліся ад нас гэтай заразы — беларусаманіі?

## ЙОХАН ХЕЙЗІНГА І МРОІ ПРА ВІРТУАЛЬНУЮ ДЗЯРЖАВУ

Цяпер ужо не памятаю, скуль непасрэдна ўзнікла думка, з якой я потым, як дурань з пісанай торбай, цягаўся некалькі дзён запар. Хаця напэўна яна пачаткавалася недзе ля відавочнай тэзы: большасць насельнікаў Беларусі (блізу шасці мільёнаў) прагаласавала за сацыяльную дзяржаву. Добра, іх болей, яны перамаглі, дык хай сабе і ладзяць жытво, як ім падабаецца. Але чаму з іх перамогі мусяць пераможаныя пачувацца ў скрусе, да таго ж не прыхадні, а таксама тубыльцы гэтага краю? Як-ніяк, не за "барбарскімі" часамі жывём, дэмакратыя наўкола, а дэмакратыя, як вядома, гэта найперш павага і забеспячэнне правоў меншасці. Тым болей, што не такая яна ўжо і малая, гэтая меншыня, якая аддала перавагу нацыянальнай дзяржаве (блізу двух мільёнаў; а хай сабе і мільён).

— Дык чаму гэтыя два мільёны (а хай сабе і мільён) не могуць жыць, як цывілізаваныя людзі, мець *свайго* прэзідэнта, *свой* парламент і ўсе астатнія палітычныя і грамадскія інстытуты? — запытаўся я сам у сябе.

Узважыўшы пытанне, таксама сам сабе, слушна адказаў:

— Дык таму!

Безумоўна, можна было б прапанаваць усім "свядомым" з'ехацца на жытло ў нейкую адну вобласць і зладзіць там нешта падобнае да нацыянальнай аўтаноміі, толькі беларусы не габрэі, за белы свет без прынукі не пацягнуцца, ды і дзіўна было б чакаць ад беларуса, што ён кіне бацькоўскае котлішча ці абжытую "хрушчоўку" ў Серабранцы альбо на Ангарскай дзеля таго, каб недзе ў іншым месцы лаяцца з суседам па-беларуску і на першае мая над ганкам вывешваць не чырвона-зялёны, а бел-чырвона-белы сцяг.

Адным словам, як я ні круціў мазгамі, заўсёды атрымлівалася тое самае: у прасторы аднаго топаса няма разам месца сацыяльнай і нацыянальнай дзяржавам... А з гэтага бясспрэчна вынікала, што "свядомым" нічога іншага не застаецца, як гібець кожнаму паасобку ў сваім катуху, пакуль не павымiраюць усе да апошняга, што тыя яцвягі.

І вось недзе тут, у момант гранічнай скрухі, я нечакана ўспомніў Йохана Хейзінга, дакладней,ягоную канцэпцыю, у якой ён сцвярджаў, што ўся чалавечая культура — гэта нішто іншае, як гульня ў безлічах праяваў гульні ("Homo ludens"). Калі "вся жизнь игра", — падумалася мне, — то чаму б нам, "свядомым", не **згуляць** у Беларускую Нацыянальную Дзяржаву? Чаму б нам не правесці сярод сваіх, "свядомых", выбары **свайго** Прэзідэнта, **свайго** Парламента, якія б потым сфармавалі **наш** Урад, прынялі канстытуцыю для **нас**, і згодна гэтай канстытуцыі знайшлі б нам месца сярод грамадзян Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі (БНР); і г.д. і да т.п.

Зачапіўшыся хоць за нешта, мая фантазія ўжо не хацела зважаць ні на законы логікі, ні на магчымасці рэальнасці, яна ліхаманкава разбягалася ў розныя бакі ўсё далей і далей (куды там Манілаву): я ўяўляў **уласныя** прадстаўніцтвы ў розных краінах свету (дзе толькі беларусаў няма, а згуртаванні беларусаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Польшчы, Латвіі ды некаторых іншых краінах і сёння выконваюць ролю пасольстваў ці не ў большай меры за афіцыйныя пасольствы); **уласныя** грошы (дынар? талер?), якімі б мы карысталіся ў дробных гандлёвых стасунках паміж сабой (з цягам часу яны, магчыма, сталі б канверсавацца з беларускім рублём); **уласнае** "войска" (ну калі не "войска", дык нейкую арганізацыю кшталту самааховы, якая хаця б абараняла "свядомых" ад агрэсіі "несвядомых"); **уласныя** партыі (лібералы, сацыял-дэмакраты, камуністы, зялёныя...); **уласныя** рэлігійныя інстытуты (сярод іх аўтакефальная царква); **уласныя** СМІ, выдавецтвы, фонды, культурніцкія праграмы і ініцыятывы (што да ўсяго апошняга, то незалежныя беларускамоўныя выданні і культурніцкія праграмы, як на Беларусі, так і ў замежжы, заўсёды працавалі і працуюць пераважна на карысць і патрэбу грамадзян менавіта гэтай, віртуальнай Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі)...

У тыя некалькі дзён вясёлага шаленства, калі мая галава была апанаваная віхурай уласных фантасмагорый, я, здаецца, перамацаў усе магчымыя дзяржаўныя, грамадскія, палітычныя і сацыяльныя інстытуцыі, прыглядаючыся, што з усяго гэтага мноства магло прыдацца да рэальнасці віртуальнай Беларускай Нацыянальнай Дзяржавы. Натуральна, усе тыя думкі (прыдумкі, задумкі, выдумкі) я тут прыгадваць не маю намеру, ды шмат чаго ўжо і забылася, але выразна памятаю, што і падчас найвялікага ачмурэння я не забываўся:

а) на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая не прадугледжвае ўнутры сваіх межаў ніякай іншай дзяржавы, акрамя той, што ўжо існуе;

б) на адсутнасць механізму, праз які можна было б выявіць і злучыць усіх "свядомых" паміж сабой (калі яшчэ пабытовы камп'ютэр, падключаны да "сусветнага павуціння", станецца такой жа шараговай з'явай, як тэлевізар);

в) на адсутнасць адпаведных фінансавых сродкаў; а маштабныя гульні патрабуюць шмат грошай;

г) на анталагічную няздольнасць беларусаў гуляць у **сваю** гульню, ды і ўвогуле гуляць хоць у якія абстрактныя гульні.

Як гэта ні дзіўна, але менавіта апошняя антытэза найбольш выразна высветліла ўсю меру фантазійнасці маіх фантазіяў... Праблему Канстытуцыі вырашала Г у л ь н я; гуляць наша Канстытуцыя не забараняе, а калі можна гуляць у "Зарніцу" ці "КВЗ", то чаму нельга гуляць у віртуальную Дзяржаву?.. Адсутнасць камп'ютэраў пакуль можна было б кампенсаваць поштай, тэлефонам, незалежнымі СМІ... Грошы? Грошай заўсёды будзе не хапаць. А вось заахвоціць беларусаў, хай сабе і "свядомых", да інтэлектуальнай забаўкі, у якой гульня была б сур'ёзнай справай, а сур'ёзная справа — гульнёй, немагчыма. І гэта напэўна, што я беларусаў не ведаю?

Беларус альбо працуе, альбо п'е гарэлку. Калі вып'е, можа і пазабаўляцца. Але каб цвярозы беларус не працаваў, а забаўляўся — такога, лічы, не бывае.

На гэтай цвярозай выснове і скончылася мая сам-насам гульня ў віртуальную Беларусь. Але паколькі я трохі літаратар, гэта значыць чалавек, для якога выдуманае мае аднолькавую каштоўнасць з рэальным, то мне тады вельмі карцела падзяліцца гэтай выдумкай з іншымі — напісаць артыкул ці эсэ. Ды за рознымі сур'ёзнымі справамі рукі да фантазіяў не дайшлі...

## ЭТЫЧНЫ ІМПЕРАТЫЎ НА СКРАЗНЯКАХ ПРАГМАТЫКІ

Нельга сказаць, што потым я на тыя свае летуценні зусім забыўся. Зрэдчас згадваў, але ўсё неяк мімаходзь, паміж іншым, і пэўна, з цягам часу, яны неўпрыкмет пабляклі б да нявідалі. Але нядаўна пайшла пагалоска, што сярод "свядомых" узнікла ініцыятыва, якая заклікае прымаць грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. (Спадзяюся, чытачу "ЛіМа" няма патрэбы тлумачыць пра васьмідзесяцігадовую гісторыю БНР і ўсё, што з ёю звязана). Пагалоска змянілася публікацыямі ў прэсе, а неўзабаве я і сам меў гонар быць запрошаным на ўрачыстую прэзентацыю гэтай ініцыятывы, здзяйсняць якую мусіць "Нацыянальны цэнтр" на чале з прафесарам Анатолем Грыцкевічам.

Дык вось, як толькі я пачуў пра "грамадзянства БНР", то мне адразу ўзгадаліся мае ранейшыя летуценні пра Беларускую Нацыянальную Рэспубліку, і зусім не з абрэвіятурнай тоеснасці (БНР — БНР), а з прычыны куды больш істотнай: тут ужо дэкларавалася імкненне практычна рэалізаваць як мінімум адзін, але надзвычай важны пункт, які супадаў з "праграмай" маіх трызненняў, а менавіта — прапаноўвалася адметнае грамадзянства для "свядомых", гэта значыць з большага акрэслівалася поле іх **с у п о л ь н а й** прысутнасці ў тапаграфіі быцця.

Калі ёсць "мінімум", — спехам падумалася мне, — то, магчыма, прадугледжваецца і нейкі "максімум". Не, нават "спехам" я не спадзяваўся, што сур'ёзныя людзі, паважныя палітыкі стануць разгортваць сваю ініцыятыву, прыпадабняючыся да фантазіяў адвязанага ад рэальнасці літаратара. Але ж, але ж...

Натуральна, ніякіх "але" з "мінімуму" не вынікала. Ужо ў артыкуле паважаных Вінцука Вячоркі і Лявона Баршчэўскага, надрукаванага ў "Нашай Ніве" і прысвечанага ідэі "грамадзянства БНР", акцэнтавалася: гэта не гульня, гэта сур'ёзна (быццам мяне асабіста папярэджвалі). Потым, на прэзентацыі ініцыятывы, мае кволыя спадзяванні на "нешта большае" зусім зніякавелі. Розныя выступоўцы казалі адно і тое ж: "грамадзянства БНР" — гэта маральны і палітычны выбар, прысяга на вернасць незалежнасці, беларускай мове, бел-чырвона-беламу сцягу і гербу "Пагоня", дзяржаўнасці Беларусі. Таму, пэўна, мяне наўрад ці хто зразумеў, калі я ў сваім слове сказаў, што ідэя грамадзянства БНР мае самадастатковы патэнцыял, які пры ўмове яго разгорнутасці можа стварыць больш утульную сітуацыю для "нацыянальна свядомых". А інакш, калі гэтая ініцыятыва будзе толькі дапаможнай акцыяй у палітычнай барацьбе за ўладу "нашых" у Рэспубліцы Беларусь, то яна згорнецца ў звычайны сацыялагічны перапіс, чарговую каталагізацыю "свядомых" беларусаў для архіва найноўшай гісторыі і архіва КДБ.

Яшчэ раз паўтаруся, здаецца, я дастаткова ясна ўсведамляю розніцу паміж эмацыянальнымі фантазіямі сам-насам і магчымасцямі палітычнай рэальнасці. Але разам з тым я амаль упэўнены, што калі ідэя "грамадзянства БНР" не будзе падмацавана і нагружана дадатнымі ідэямі і праектамі, якія дапамогуць вывесці "падвойных" грамадзян з сітуацыі статыкі (фармальнага пераліку ў спісах) у сітуацыю дынамічнай грамадзянскай прысутнасці ў полі, акрэсленым ідэяй БНР, то БНР па-ранейшаму застанецца маральна-палітычным прывідам, а яе грамадзяне — зданямі, пра якія ніколі з упэўненасцю нельга сказаць: ці то яны ёсць, ці то іх няма.

У мяне маецца досыць падстаў думаць, што менавіта гэтак яно і будзе. Бо відавочна, што нашы палітыкі, актуалізаваўшы ідэю БНР, мяркуюць дапаможна абаперціся на яе, каб прыйсці да ўлады ў рэальнай Рэспубліцы Беларусь, а гэта значыць, што стратэгія іх ініцыятываў, у якія б абрэвіятуры яны ні загортваліся, вектарна будзе скіравана не на БНР, а на РБ, і таму наш маральны выбар "грамадзянства БНР" — гэта ўсяго толькі выяўленне этычнага імператыва нацыянальна заангажаванага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Само па сабе выяўленне этычнага імператыва бачыцца мне падзеяй безумоўна станоўчай, а ініцыятыва "Нацыянальнага цэнтра" падаецца мне адной з найбольш каштоўных грамадскіх ініцыятыў. Але з яе вынікае і небяспечнае пытанне: ці магчыма прыйсці да ўлады з ідэяй нацыянальнай дзяржавы там, дзе татальная большасць насельніцтва перманентна дэманструе сваю адданасць сацыяльнай мадэлі дзяржаўнага ўладкавання? Зусім жа не выключана, што менавіта ініцыятыва па далучэнні да грамадзянства БНР гранічна высветліць усю праблематычнасць падобнай магчымасці і ўрэшце абернецца новым "майскім рэферэндумам", толькі ўжо зыніцыяваным намі самімі. Бо колькі б высілкаў ні было пакладзена на прылучэнне грамадзян РБ да грамадзянства БНР, нават пры самым аптымістычным раскладзе можна не сумнявацца ў сціпласці лічбаў на выніковым рахунку.

Мы ўвесь час спадзяёмся на нейкі цуд, спадзяёмся, што тая рэальнасць, якую назіраем штохвілі на свае вочы, гэта аблуда і дастаткова вынайсці нейкі іншы ракурс бачання гэтай рэальнасці, як яна карэнным чынам пераменіцца на нашу карысць... І ці не ёсць ідэя "грамадзянства БНР" (у прапанаванай нам схеме) чарговай спробай змяніць ракурс бачання той самай сітуацыі ў спадзеве, што гэтым разам яна высветліць тое, што нам летуценна марыцца бачыць: з намі сотні тысяч, мільён! а раптам і не адзін...

Асабіста я ад вынікаў гэтай ініцыятывы чакаю іншага "цуда": можа, урэшце з яе сфармуецца разуменне, што нас ёсць столькі, колькі нас ёсць. І з гэтага разумення нашы палітычныя і грамадскія ініцыятывы далей будуць скіраваныя не на нейкі міфічны беларускі народ, у спадзеве раскатурхаць яго да нацыянальнага жыцця, а на нас саміх, якія ёсць сёння, колькі б там нас ні было, з нашым разуменнем цывілізаванага палітычнага і грамадскага ўладкавання. Гэта значыць, што мы, "нацыянальна заангажаваныя", перастанем, магчыма, быць адно нейкай механічнай сілай для татальнай экспансіі нацыянальнай ідэі на прастору ўсёй Беларусі і вызначым сябе ў якасці самадастатковага суб'екта ўнутры гэтай прасторы, зразумеем сябе як актуальную праблему, якую мы самі для сябе мусім і здольныя вырашыць... Вырашыць менавіта праз сябе, а не праз прылучэнне да нас (да нацыянальнай ідэі) астатняга насельніцтва Беларусі.

Прынамсі, напярэдзе гэтая праблема мусіць выступіць як наша ўласная праблема, і ўжо толькі пабочна — як экспансія нацыянальнай ідэі вонкі...

## ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ У ДЫСКЕЦЕ З АЙЧЫНАЙ

Усялякая дзяржава ёсць нішто іншае, як суплёт правоў і абавязкаў дзяржавы перад яе грамадзянамі — і наадварот. Адсутнасць узаемных правоў і абавязкаў ці немагчымасць іх рэальна атрымліваць і выконваць з аднаго альбо другога боку, ператварае дзяржаву ў фікцыю, пакідае за ёй толькі ідэю дзяржавы, а за яе грамадзянамі пакідае адно права маральнага выбару: наследаваць гэтай ідэі ці адсланіцца ад яе. Вось чаму ў сітуацыі з БНР (у сітуацыі адсутнасці ўзаемных правоў і абавязкаў) напярэдзе ўсяго апынуўся "маральны выбар".

*(Працяг на стар. 12)*

## Пішам, жывём, чытаем

**Другі нумар часопіса "Полымя" багаты на імёны і творы. Адкрываецца ён падборкай лірычных запісаў Я. Брыля "Пішу, чытаю, жыву". І. Шамякін выступае з новай аповесцю "Завіхрэнне". Паэзія нумара прадстаўлена імёнамі С. Грахоўскага, Ф. Батарына, А. Жыгунова, І. Катлярова. Чытач мае мажлівасць пазнаёміцца з заканчэннем "Запісак і дыярыуша Яна Уладзіслава Пачобута-Адляніцкага" (пераклад з польскай і каментарыі В. Таранеўскага), "Лістамі Юркі Віцьбіча да Пятра Глебкі" (падрыхтоўка да друку і публікацыя Я. Кісялёвай), дзённікавымі запісамі М. Гіля "А без яе — зусім не жыць...", артыкулам А. Пашкевіча "Струны Апалона. Эстэтычна-мастацкія знакі беларускага ўзвышэнства", слова А. Марціновіча пра паэта С. Шушкевіча "Лягчэй мне стала на душы...", развагамі А. Бадака аб паэзіі Л. Геніюш "Госця з будучыні", артыкулам М. Даніловіча "Язык як перац, слова як соль", рэцэнзіямі на новыя кнігі, падборкай "Дзядоўнік на Парнасе".**

## На ўсё хапала

**3 мая 1998 года Георгій Папоў адзначыў бы сваё 80-годдзе, ды, на жаль, Георгій Лявонцьевіч не дажыў да свайго круглага юбілею, пайшоў з жыцця 9 жніўня 1995 года. Родам з Расіі, нарадзіўся ў вёсцы Прыганка Круціхінскага раёна Алтайскага краю. Яшчэ ў даваенны час працаваў загадчыкам аддзела культуры і быту газеты "Борьба за уголь", што выходзіла ў горадзе Анджэра-Суджанск. Працу спалучаў з вучобай у Новасібірскім педагагічным інстытуце. У час Вялікай Айчыннай вайны, пакольки пасля атрымання сярэдняй адукацыі паспеў скончыць фельчарскую школу, быў ваенным медыкам на Калінінскім, Заходнім, Цэнтральным, 1-м і 4-м Украінскіх франтах. З 1946 года — ваенны журналіст, з 1950-га працаваў у рэдакцыі газеты Беларускай ваеннай акругі "Во славу Родины". У 1956—1959 гадах Г. Папоў з'яўляўся супрацоўнікам рэдакцыі рэспубліканскай газеты "Калгасная праўда", а ў 1959 годзе перайшоў на працу ў часопіс "Нёман". З 1966 да 1978 года быў намеснікам галоўнага рэдактара "Нёмана".**

**Літаратурную працу Георгій Лявонцьевіч пачаў у 1938 годзе (пісаў па-руску), але ў беларускай перыёдыцы першае апавяданне апублікаваў толькі ў 1952 годзе ў альманаху "Советская Отчизна". У 1956 годзе ў Маскве пабачыла свет першая кніга прозы Г. Папова "В родном полку", што складалася з апавяданняў. У Г. Папова выйшлі таксама кнігі аповесцяў і апавяданняў "Половодье", "Клок сена", "Гуси-лебеди", "За тридевять планет" (вытрымала два выданні ў 1976 і 1990), "Поездка в Тростёну", "Память", "На том, на волжском берегу" і іншыя. Займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю, пераўвасобіўшы па-рускy паасобныя празаічныя творы Я. Коласа, З. Бядулі, Б. Мікуліча, Я. Брыля, А. Савіцкага, Л. Гаўрылкіна і іншых пісьменнікаў: а таксама вершы М. Багдановіча.**

## Прыемная ўзнагарода




**Прыза рэспубліканскага Саюза тэатральных дзеячаў і міжнароднага інстытута тэатра "Крыштальная кветка" ўдастоена актрыса Беларускага тэатра лялек "Лялька" з Віцебска Ларыса Мартынава за ролю хлопчыка-зоркі, якую яна сыграла ў спектаклі па п'есе англійскага пісьменніка Оскара Уайльда.**

*На здымку: Ларыса Мартынава з прызам "Крыштальная кветка" і галоўным героем спектакля.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

***Кожны час стварае свае міфы. У тым ліку і літаратурныя. Другая палова 80-х гадоў нашага стагоддзя, на якую прыпала чарговая хваля беларускага нацыянальнага адраджэння, мела свой рамантычны літаратурны міф, абазначаны назвай "Тутэйшыя". Фармальна гэта было аб'яднанне маладых беларускіх літаратараў, якія стаялі на адраджэнскіх пазіцыях, ці, дакладней, у апазіцыі да афіцыйнай ідэалогіі. Але "Тутэйшыя" — гэта было больш, чым літаб'яднанне. І — ці перастала быць? Яго сябры сёння актыўна працуюць у літаратуры, займаюцца грамадска-палітычнай, выдавецкай дзейнасцю... Дзесяць год ад заснавання — час, калі можна рабіць нейкія высновы. Каб паразважаць над тым, што азначалася назвай "Тутэйшыя", якія лёс і перспектывы гэтай з'явы, у чарговай лімаўскай "Гарбатні" сабраліся госці — сябры (былыя?) літаб'яднання "Тутэйшыя": дырэктар музея М. Багдановіча, літаратуразнаўца Алесь БЯЛЯЦКІ, пісьменнік, выдавец Адам ГЛОБУС, паэты Міхась СКОБЛА, Людка СІЛЬНОВА, гаспадыня лімаўскай "Гарбатні" паэтка Людміла РУБЛЕЎСКАЯ, а таксама шаноўныя тэарэтыкі літаратуры — прадстаўнікі старэйшага (ад "Тутэйшых") пакалення, літаратуразнаўцы-філосафы прафесар Уладзімір КОНАН і Валянцін АКУДОВІЧ.***

ЗА ГАРБАТАЙ

# Ад "Тутэйшых" — да тутэйшых...

**Людміла Рублеўская.** Калі ў 1989 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў першы (і апошні) зборнік твораў сяброў таварыства "Тутэйшыя", яго ўкладальнік Сяргей Дубавец у анатацыі дзкляраваў: творы "задумваліся і пісаліся новымі беларускімі літаратарамі "Тутэйшымі" — без надзеі ўбачыць іх у друку два, тры, пяць гадоў назад... Аб'ядналіся "Тутэйшыя" ў 1987 г., зараз іх амаль 60 чалавек, жывуць па ўсёй рэспубліцы, пішуць паасобку, грамадска-палітычнай дзейнасцю займаюцца разам".

І гэта, бадай, адзіныя канкрэтныя звесткі пра "Тутэйшых", чыя дзейнасць, вызначыла на дзесяцігоддзе накірунак развіцця айчыннай літаратуры. Відаць, не абыдземся мы сёння без настальгічных успамінаў. Па маіх звестках, нарадзіліся "Тутэйшыя" ўзімку 1987 года...

**Алесь Бяляцкі.** Пэўна, ідэя стварыць літаратурнае маладзёжнае аб'яднанне "вісела ў паветры". Памятаю, сабраліся мы сапраўды ўзімку. Нас было сем чалавек: Анатоль Сыс, Славамір Адамовіч, я і яшчэ чатыры асобы, якіх зараз не згадаю. Сабраліся ў Доме літаратара, а пасля чамусьці паехалі ў інтэрнацкі пакой да Сыса, дзе адбыўся ўстаноўчы сход.

**Л. Рублеўская.** Мне здаецца, што ў выніку ўтварылася не літаб'яднанне, не нейкая суполка. У маім уяўленні "Тутэйшыя" — гэта маё пакаленне... Але што ж было створана пад гэтай назвай?

**Адам Глобус.** Чаму ты кажаш — "было"? Можа, тое, што стварыў Бяляцкі з Сысом, сапраўды "было". А тое, што стварыў я, ёсць.

**Л. Рублеўская.** І што ж стварыў ты?

**А. Глобус.** Па-першае, я быў катэгарычна супраць назова "Тутэйшыя". Па-другое, я зразумеў, што форма літаб'яднання — занадта вузкая. Мэта была такая: выкарыстаць тыя структуры, што існавалі ў Савецкім Саюзе, і да нейкай ступені легалізаваць нашу працу — маю, маіх сяброў, якія не паехалі тады ў інтэрнацкі пакой да Сыса, а рабілі сваю справу. Тады маладых пісьменнікаў не пускалі ні ў якія структуры. Таму падобныя маладзёжныя суполкі ўтвараліся ў Маскве, у Піцеры... У нас была свая суполка. Была суполка Алеся Бяляцкага, была зусім іншая суполка, якую стварыў Сяргей Дубавец. І толькі калі мы пачалі аб'ядноўвацца — са спрэчкамі, са скандаламі, — былі ўтвораны тыя "Тутэйшыя", якіх усе ведаюць.

**А. Бяляцкі.** Дарэчы, калі адбылося канчатковае аб'яднанне? Памятаю, пасля таго ўстаноўчага сходу ў Сыса доўгі час збіраліся ў аспіранцкім інтэрнаце на Акадэмічнай, дзе тады жыў я, прыходзілі новыя асобы — Ігар Бабкоў, Вітаўт Чаропка. Мы фактычна "знайшлі" тады Вітаўта Чаропку, дзякуючы Адаму Мальдзісу. Даведаліся, што ёсць такі хлопец, які "ўкалвае" недзе каля мартэнаў, "лье метал", і напісаў гістарычны раман. І я думаю, што каб не "Тутэйшыя", ён мог і не "выплысці". Працуе дзівак на заводзе, піша раманы... Каб звярнуўся ён са сваёй творчасцю ў афіцыйныя структуры, яго проста высмеялі б.

**А. Глобус.** Вясной 1988 года пачаліся агульныя сходы ў Доме літаратара. А зіма прайшла ў спрэчках.

**Міхась Скобла.** Я пры пачатку "Тутэйшых" не быў — служыў у войску. Але дакладна памятаю: восенню 1987 года я трапіў у Дом літаратара, дзе ўжо адбывалася грандыёзнае пасяджэнне "Тутэйшых". Прысутнічалі прадстаўнікі ЦК, універсітэта...

**А. Глобус.** Затое я дакладна ведаю, калі скончыліся "Тутэйшыя"... Калі пачалі пераарыентоўвацца на адну палітыку. Бо "Тутэйшыя" былі добрыя якраз тым, што не былі толькі палітычнай арганізацыяй. І не толькі літаратурнай.

**М. Скобла.** Быў такі час — цяпер ён паўтараецца — калі пісьменнік вымушаны займацца палітыкай, да якой ён, магчыма, у іншы час і блізка не падыходзіў бы. Але калі забараняюць літаратурныя вечарыны, сустрэчы з чытачамі...

**А. Глобус.** Тады мы былі акрыленыя надзеяй. Зараз гэтага няма. Тады мы былі ўпэўненыя, што пераможам да канца.

**А. Бяляцкі.** Пачатак палітычнай дзейнасці "Тутэйшых" — арганізацыя святкавання "Дзядоў". Менавіта "Тутэйшыя" падавалі заяўкі на правядзенне гэтых акцый, якія выклікалі моцны ўсплёск нацыянальнага руху ў 1988 годзе. Але ў той жа час і ў кожнага сябра літаб'яднання былі свае літаратурныя амбіцыі. На абмеркаваннях творчасці адзін аднаго даходзілі да страшэнных сварак, і дзякуй Богу, што ў нас гэта было. Бо ў адрозненне ад нас ранейшыя літаратурныя пакаленні цяжка нават назваць пакаленнямі. Усе былі па адным. "Зубры" літаратуры, мякка кажучы, не любілі адзін аднаго. Сказалася і тое, што не было ў іх "прыціркі" адзін да аднаго ў маладыя гады.

**Л. Рублеўская.** Я параўноўвала перыяд "Тутэйшых" з перыядам беларускага адраджэння пачатку стагоддзя. Два перыяды актыўнага фармавання маладымі літаратарамі нацыянальнага беларускага міфа.

**А. Бяляцкі.** Трэба зазначыць, што мы ўсе былі антыкамуністамі. І гэтая здаровая закваска сказваецца і цяпер.

**А. Глобус.** Ідзі сацыяльнай роўнасці, камунізму тут ні пры чым. Мы былі супраць імперыялізму, а не супраць сацыялізму.

**А. Бяляцкі.** Супраць афіцыйнай ідэалогіі. З нас ніхто не пісаў вершы, у якіх ухваляліся б партыя і камсамол. А згадай, чым тады былі напоўненыя выдавецкія зборнікі...

**Л. Рублеўская.** Палітычнасць беларускага пісьменніка вынікае ўжо з таго, што ён беларускі пісьменнік. У "Тутэйшыя" прыходзілі перш за ўсё пісьменнікі з самадастатковай літаратурнай творчасцю...

**А. Глобус.** Беларускія пісьменнікі, а не беларускія **савецкія** пісьменнікі. У гэтым — розніца. Эталон беларускага савецкага пісьменніка — Іван Пятровіч Шамякін. А я — проста беларускі пісьменнік. Як Багушэвіч. Хаця ў кожным падручніку ў дачыненні да апошняга дадаецца "сацыял-дэмакрат". Уладзімір Караткевіч і Генадзь Бураўкін належалі да аднаго пакалення. Але апошні пісаў "Ленін думае пра Беларусь", а першы — не пісаў.

**М. Скобла.** Уладзімір Караткевіч пісаў "Ленін калыша дзіця". А паэма Бураўкіна, дарэчы, зусім і не пра Леніна. Калі хто чытаў. І паэма добрая. Мне іншае цікава. Калі старэйшыя пісьменнікі стваралі падобныя творы, кшталту "Сцяга брыгады", яны шчыра верылі, што ствараюць шэдэўр на вякі. А сённяшнія літаратары, якія пішуць аналагічныя творы, цудоўна разумеюць, што на вечнасць разлічваць не даводзіцца, што іх мэта — не мастацкасць, а — выслужыцца.

**Л. Рублеўская.** Звычайнае сервільнае, абслугоўваючае мастацтва, якое існавала ва ўсе часы па-за ўсякай ідэалогіяй. І мараллю.

**А. Глобус.** Я думаю, што кожны пісьменнік здатны да нейкай ступені кан'юнктуры. Мы — першыя, хто захацеў пазбавіцца гэтага. Чаму мы і згуртаваліся. Нас усіх не друкавалі, таму што мы не пісалі тое, што адпавядала б ідэалагічнай кан'юнктуры. Што я, не мог пра камсамол напісаць? Ды напісаў бы.

**А. Бяляцкі.** Так, быў і чыста літаратурны штуршок да ўтварэння "Тутэйшых": не хацелі пісаць па прымусу.

**А. Глобус.** Кніжку чыстай лірыкі выдаць было немагчыма. Павінна была быць пэўная колькасць вершаў пра рабочых, пра Вялікую Айчынную вайну, ветэранаў і г. д. У Мінкіна была нізка вершаў для дзяцей пра кожны месяц. І калі цэнзар выбіраў у 1985 годзе, ці рассыпаць набор кніжкі Мінкіна, ці маёй — бо некага, згодна "ўстаноўцы", трэба было "зашчаміць", — вырашылі, што, па-першае, я — маладзейшы, і павінен саступіць "старэйшаму" Мінкіну дарогу, а па-другое, у кніжцы Мінкіна можна першым вершам паставіць верш "Кастрычнік", і такім чынам аддаць даніну "ідэалогіі". І выйшаў у свет зборнік Мінкіна "Сурма"...

**Людка Сільнова.** Пісьменнік тады мусіў быць ідэолагам, шрубкай ідэалагічнай машыны.

**А. Глобус.** Таму "Тутэйшыя" і мелі розгалас, бо пісьменнік займаў высокую сацыяльную прыступку ў грамадстве, якую не займае зараз.

**Л. Рублеўская.** У "Тутэйшых" скандэнсаваліся ўсе нечага вартыя таленты свайго часу, натуральным чынам, як кропелькі ртуці збіраюцца ў адно.

**М. Скобла.** Няўжо не было ніводнага, хто не прыйшоў да "Тутэйшых" з нашых равеснікаў?

**Л. Сільнова.** Проста былі тыя, хто прыйшоў раз-другі — і знік.

**А. Бяляцкі.** А цяжка і назваць. У нас па спісе было 80 чалавек. Рэальна з іх у літаратуры засталося 25—30.

**А. Глобус.** Стварэнне нашага аб'яднання падтрымалі многія старэйшыя пісьменнікі. Паперу за стварэнне "Тутэйшых" падпісалі і Яўгенія Янішчыц, і Раіса Баравікова, і іншыя... Падпісалі не ўсе. Але ніхто не адмовіўся дапамагаць.

**Л. Сільнова.** "Тутэйшыя" — гэта была нейкая дваістая зорка: "Тутэйшыя" і ТМЛ. А тут гаворка бышцам бы пра адну.

**А. Бяляцкі.** ТВЛ — Таварыства вольных літаратараў — гэта было эпігонства пасля таго, як "Тутэйшыя" перасталі збірацца. Грымнуў гром, і пакацілася рэха.

**Л. Сільнова.** Я маю на ўвазе ТМЛ — Таварыства маладых літаратараў пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

**А. Глобус.** Дык гэта і былі "Тутэйшыя".

**Л. Сільнова.** Так, але атрымлівалася, што адны хадзілі на ТМЛ, а другія — на "Тутэйшых". А пасля ўтварыўся сімбіёз — Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя". У гэтай машыны было два маторы: адзін — Глобус, другі — Сыс. І паміж гэтымі двума полюсамі разгортваўся наш літаратурны працэс. Неяк я размаўляла з Сяргеем Дубаўцом пра "Тутэйшых": "Калі ўявіць наша аб'яднанне птушкай, і што адно крыло ў гэтай птушкі — Глобус, другое — Сыс, што — ты? Галава? Тулава? Хвост?.." Найбольш, здаецца, падышло — дзюба.

**А. Глобус.** На сваім першым з'ездзе "Тутэйшыя" прынялі пастанову выказаць недавер беларускаму ўраду за яго паводзіны ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай.

**Л. Рублеўская.** З'езд быў першы і апошні?

**А. Глобус.** Так. У мяне ёсць пратакол гэтага з'езда. Цікавыя здараліся эпізоды. Напрыклад, устаў вялікі чыноўнік і пачаў гаварыць: "Хачу вам растлумачыць, у якой сітуацыі вы знаходзіцеся..." Падняўся Ігар Бабкоў і сказаў: "А вам слова не давалі. Я да вас у ЦК не прыходжу і не вучу, што і як

гаварыць. Хто вас запрашаў на з'езд? Ніхто? Ну дык сядзьце і пасядзіце ціха".

**М. Скобла**. Ні адзін з'езд Саюза пісьменнікаў не выказваў недавер ураду. Вялікі рэзананс меў і ліст да 19-ай усесаюзнай партканферэнцыі. Чамусьці на трыбуну (акурат адбываўся чарговы пісьменніцкі з'езд ці пленум) зачытваць гэты зварот выпхнулі мяне. Памятаю, дакумент быў вельмі смелы — заклік пакараць беларускі ўрад за прыхаванне наступстваў чарнобыльскай катастрофы, за дыскрымінацыю беларускай мовы... "Тутэйшых" не пускалі ў залу, даводзілася лезці праз вокны. А ў зале шапталіся: "Тутэйшыя" праніклі сюды. Чакай правакацыі".

**Л. Рублеўская.** А ў мяне чамусьці ўяўленне пра "Тутэйшых" ідзе менавіта праз асэнсаванне далучанасці да літаратурнай творчасці...

**Л. Сільнова.** Урэшце, многія сябры гэтага аб'яднання прыйшлі туды менавіта ствараць сваю літаратуру.

**Л. Рублеўская.** А калі збіраюцца творчыя індывідуальнасці, рана ці позна кожны з іх пойдзе сваім шляхам, перарасце калектыўную дзейнасць.

**Л. Сільнова.** У анкеце 1988 года часопіса "Маладосць", прысвечанай знаёмству з ТМЛ, "Тутэйшымі", было пытанне: ці не трывожыць вас тое, што разам сабраліся людзі такога рознага ўзросту і ўзроўню літаратурнай падрыхтоўкі? Я адказала, што, на маю думку, менавіта гэтая розніца і з'яўляецца перадумовай інтэнсіўнага агульнага развіцця. "Тутэйшыя" — гэта сістэма, падобная да паскаральніка часцін, на выхадзе з якога атрымліваецца паток зараджаных атамных ядраў, электронаў, пратонаў і больш дробных часцінак.

**А. Глобус.** Нас геаграфічна ўсіх раскідала. Я працую ў Маскве, Дубавец — у Вільні, Сяргей Шупа — у Празе, Сокалаў-Воюш з'ездзіў у Амерыку, вярнуўся ў Прагу... Ні адно іншае пакаленне не было так раскідана. Яны размяжоўваліся па выданнях — "Маладосць", "Полымя", "ЛіМ", і хадзілі ў гэтым Бермудскім трохкутніку.

**Валянцін Акудовіч.** Мне здаецца, "Тутэйшыя" — абсалютны міф. Іх няма і ніколі не было. Проста пераломму любой эпохі патрэбна пэўнае вызначэнне. І яно было знойдзена — "Тутэйшыя". "Тутэйшыя" — гэта перапом эпохі, або перапом эпохі плюс Дубавец. Хаця асабіста я пачуў прозвішча Дубаўца, калі "Тутэйшыя" ўжо разваліліся...

**Л. Рублеўская.** А яны разваліліся? Можа быць, перайшлі ў іншую якасць?

**В. Акудовіч.** Мне здаецца, што без Дубаўца стварэнне "Тутэйшых" было немагчымым. Бо няма ніякіх падстаў таму, што менавіта гэтыя людзі аб'ядналіся. Эстэтычна яны абсалютна розныя. Інтэлектуальна — таксама. Этычна — нічога іх не яднала. Адзінае, што было агульным, — ідэя Дубаўца. Якую, дарэчы, ён і цяпер рэалізоўвае праз "Нашу Ніву".

**А. Бяляцкі.** На пачатку ўтварэння "Тутэйшых" Дубавец жыў у Гомлі і аказваў апасродкаваны ўплыў.

**В. Акудовіч.** Усё, што створанае "Тутэйшымі", — створана асобнымі індывідуальнасцямі. Ніякіх грамадзянскіх акцый, як суполка, яны не зрабілі... Ну, адну, дзве...

**А. Бяляцкі.** "Тутэйшыя" былі заяўляльнікамі "Дзядоў", мабыць, першага палітычнага апазіцыйнага мітынгу ад 10-20-ых гадоў.

**А. Глобус.** Калі падпісвалася заяўка на правядзенне "Дзядоў", з кожным "працавалі". Тлумачылі, што ў Беларусі можа быць сітуацыя, якая пазней была ў Латвіі, Літве, Тбілісі...

**М. Скобла.** Мне казалі іншае — што будуць стаяць у пэўных месцах машыны з камянямі, і правакатары пачнуць біць людзей, а ўсё спішуць на арганізатараў... Сённяшнія моладзевыя суполкі накшталт "Бум-Бам-Літа" праводзяць свае ціхмяныя "перфоменсы", пра масавыя грамадзянскія акцыі штосьці не чуваць. Ці ў іх мэты зусім іншыя.

**Л. Сільнова.** "Страшно далеки они от народа"?..

**А. Бяляцкі.** Мы існавалі на мяжы літаратуры і палітыкі. Даводзілася займацца не толькі літаратурай.

**А. Глобус.** А я зараз удзячны лёсу, што мне даводзілася займацца "не тым", бо я ведаю, што такое на сённяшні дзень літаратура, што прадаецца і чытаецца. Што такое кан'юнктура, бульварнае чытво, якім яно павінна быць антыінтэлектуальным. І дзякуй Богу, што мы мусілі займацца не толькі літаратурай.

**Уладзімір Конан.** А вось мне цікава, назва "Тутэйшыя" мае іранічную афарбоўку?

**В. Акудовіч.** Цяпер, калі наша краіна гатовая зноў абрынуцца ў стан "тутэйшасці", для нашай гаворкі добра падыходзіла б назва "Ад "Тутэйшых" да тутэйшых". Не ведаю, дзе тут будзе правільным ставіць двукоссе.

**У. Конан.** Ну а калі я не абрынуся да стану "тутэйшасці", гэта значыць, трэба гаварыць "уся краіна мінус Конан"? А я думаю, што знойдзецца такіх яшчэ некалькі тысяч. Мы не можам гаварыць "уся краіна", вызначаць абсалютнае "мы". У сферы культуры, літаратуры кожны з нас вызначае больш, чым усе астатнія, якія не маюць дачынення да беларускай культуры.

**В. Акудовіч.** Але ўсё роўна ў нас жыве жаданне, каб "нас" было многа.

**Л. Рублеўская.** Мы ў нашай гаворцы засяродзіліся на грамадска-палітычнай дзейнасці "Тутэйшых" і пакуль нічога не сказалі пра літаратуру, якую яны стварылі, працягваюць ствараць...

**В. Акудовіч**. А ці была тая літаратура?

**А. Глобус.** Была, па меншай меры, "Літаратура-1" і "Літаратура-2". Самвыдатаўскія альманахі.

**В. Акудовіч.** Каб не было "Тутэйшых", у творчасці Глобуса нічога б не перамянілася.

**У. Конан.** Адзінае, што патрэбнае для паспяховай літаратурнай і навуковай творчасці — традыцыя, нацыянальная і сусветная. А ўсе літаратурныя арганізацыі ёсць нішто іншае, як форма падключэння да гэтых традыцый. Пакаленні існуюць не ў мастацка-эстэтычным плане, а ў сацыяльна-псіхалагічным. Ніцшэ казаў, што, каб устаяць у гэтым свеце, дзяржаве і асобе трэба ўвесь час сцвярджаць новыя сістэмы каштоўнасцяў. Яны адразу нібыта палярныя папярэднім, але пасля адбываецца канвергенцыя, уключэнне новага ў традыцыйнае. "Маладняк" быў адразу супрацьпастаўлены "адраджэнцам". Лічылася, што адраджэнцы плакалі па Беларусі, а цяпер трэба радавацца за Беларусь. Была прапанавана новая сістэма каштоўнасцяў — aqva vita, жывая вада — аптымізм, праца на стварэнне сацыялізму. Аднак у выніку камуністычныя ідэі "Маладняка" вычарпалі сябе, утварылася "Узвышша". Аказалася, літаратурная творчасць без падключэння да нацыянальнай традыцыі немагчымая. І ўсе "Маладнякоўцы" пайшлі на сваю "Галгофу" ў часы рэпрэсій за культурніцкія, адраджэнскія ідэалы, а не сацыялістычныя.

**А. Глобус.** Чаму я, які ўсё жыццё пражыў у пісьменніцкім асяродка, у сям'і пісьменніка, не лічу, што я блізкі да традыцыйных пісьменнікаў таго асяродка, напрыклад, Івана Пятровіча Шамякіна? Чаму я ад яго далёкі?

**У. Конан.** І. Шамякін і пісьменніцкі асяродак — гэта яшчэ не літаратурная традыцыя.

**В. Акудовіч.** Гэта табе здаецца, што ты ад яго далёкі.

**А. Глобус.** Гэта табе ўсё ўвесь час здаецца. А я табе скажу дакладна. Недзе ў 1981 годзе, калі я быў студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута, я прыйшоў на вечарыну Алеся Разанава і задаў яму пытанне: "Хто вам блізкі з беларускіх пісьменнікаў?" Ён сказаў: "Мне блізкія Янка Купала, Максім Багдановіч". Чаму ён не назваў сваіх равеснікаў, старэйшых калегаў? А кожны прадстаўнік пакалення "Тутэйшых" мае ці меў сяброў у сваім пакаленні. Кожны можа сказаць: "А вось як некалі з Алесем Бяляцкім, ці з Толікам Сысом..."

**В. Акудовіч.** А ты можаш сказаць для друку, як вы з Толікам Сысом біліся?

**А. Глобус.** Магу, чаму не. Біліся.

**Л. Рублеўская.** Хачу запярэчыць спадару Акудовічу наконт таго, што "Тутэйшыя" не аказалі ўплыву на кожную асобную творчую індывідуальнасць. Асабліва на той час было вельмі важна для пачынаючага творцы трапіць у асяродак аднадумцаў. "Тутэйшыя" стваралі менавіта такі асяродак. Унікальны асяродак маладой **беларускамоўнай** інтэлігенцыі. Гэта нагадвае нашу дыскусію пра літаратурную адукацыю. Для чаго патрэбны літаратурны інстытут? Ён жа не вучыць пісаць. Але ўсе, хто яго скончыў — за гэтым жа сталом прагучала калісь, — маюць на сабе пэўны адбітак, мабыць, на ўзроўні аўры, які ўзнік у выніку працяглага знаходжання ў творчым асяродку.

**В. Акудовіч.** Вы хочаце сказаць, што "Тутэйшыя" маюць агульны адбітак на ўзроўні аўры.

**Л. Рублеўская.** Так. Мы — "Тутэйшыя".

**А. Бяляцкі**. Успомнім яшчэ, што на той час у прэсе неаднаразова заяўлялася, што беларуская літаратура скончылася. Пісьменнікі сярэдняга веку сцвярджалі, што пасля іх нікога няма. Таму прычыны ўзнікнення аб'яднання як знешнія, так і ўнутраныя — даказваюць, што мы — ёсць. Што варта працаваць на гэтай ніве. Думаю, стварэнне "Тутэйшых" шмат каму дадало творчага імпэту.

**У. Конан.** А ці можна зараз аднавіць "Тутэйшых"?

**Л. Рублеўская.** У той форме, у якой яны былі, зразумела, немагчыма.

**А. Бяляцкі.** Ці патрэбнае тое аднаўленне?

**Л. Сільнова.** А я ў сваім колішнім вершы "Тутэйшая" назвала "тутэйшых людзей" "вечнымі і бяссмэрчнымі". У самой назве — адвечны вецер, архаіка...

**М. Скобла.** Вельмі важна падкрэсліць беларускамоўнасць "Тутэйшых". Быў у суполцы нейкі час паэт Міхаіл Шэлехаў. У яго выйшла выдатная кніжка на беларускай мове. Мне здаецца, гэта быў бы добры паэт. Але пасля выйшла яго кніга на рускай мове — ужо нейкая "прэсненькая". Цяпер, кажуць, ён піша адразу на чатырох мовах, кінуўся ў панславізм і загубіў сябе як творцу. Наконт таго, уплывалі "Тутэйшыя" на Глобуса ці Сыса... А ці ўплывае паэт на чалавецтва? Ці чалавецтва ўплывае на паэта? Відаць, уплыў гэты ўзаемны. Я думаю, "Тутэйшыя" ўздзейнічалі на ўсіх сяброў таварыства. Ужо тым, што збіраліся і абмяркоўвалі творчасць адзін аднаго. Помню, абмяркоўвалі зборнік Людкі Сільновай, падышлі, здаецца, надта строга.. Хіба не зрабіла ўплыву на яе?

**Л. Сільнова.** Мабыць, у дачыненні асобных радкоў...

**В. Акудовіч.** Паўтаруся — аб'яднанне розных творчых асобаў пад назвай "Тутэйшыя" было выпадковым — у сэнсе персаналіяў. Хтосьці патрапіў туды, хтосьці не.

**Л. Рублеўская.** Мы ўжо задаваліся пытаннем, хто з нашага пакалення не патрапіў у "Тутэйшыя"?

**В. Акудовіч.** Я не патрапіў. Алесь Аркуш не патрапіў. Гродзенскія хлопцы.

**Л. Рублеўская.** Гродзенскія хлопцы і Алесь Аркуш стварылі свае, рэгіянальныя, суполкі.

**А. Глобус.** А што стварыў Леанід Дранько-Майсюк?

**В. Акудовіч.** Леанід Дранько-Майсюк, у адрозненне ад вас, быў ужо тады вядомым і знакамітым.

**А. Глобус.** Мы былі "Тутэйшымі", а ён быў літаратурным начальнікам.

**М. Скобла.** І рэдактарам зборніка "Тутэйшыя". Памятаю, як у 90-м годзе ў Кактэбелі ён парадзіраваў мову гэтага зборніка, "Ён яе абшчаперыў у абдоймах"... А між тым, гэта важны аспект — "Тутэйшыя" абнавілі літаратурную мову. Нешта прыдумалі, нешта ўзялі з забытай лексікі. А сёння — як шмат з гэтага выкарыстоўваецца.

**А. Глобус.** Хто сядзеў у цёплых фатэлях, над кім "не крапала", — тыя не прыходзілі на "Тутэйшых". І гэта не вызначалася ўзростам. Мінкін быў старэйшы за Дранько-Майсюка.

**В. Акудовіч.** Можна падумаць, што збіраліся нейкія "адверженыя". Што, у цябе не было кватэры? Малады быў, адукаваны... Чаго табе не хапала для шчасця? Ну, трошкі не друкавалі.

**А. Глобус.** Ну, так. Рассыпалі набор гатовай кніжкі. "Трошкі не надрукавалі". Толькі паабяцалі пасадзіць — не пасадзілі. Толькі паабяцалі газам "траванууць" — але неяк уцёк...

**У. Конан.** Каму хадзіць, каму не, да "Тутэйшых" — гэта была ўсё-ткі больш душэўная праблема. Важна было тое, што пісьменнікі салідарызаваліся з апазіцыяй "Тутэйшых".

**Л. Рублеўская.** Нават не "хадзіў — не хадзіў", а хто аб'ектыўна належаў да "Тутэйшых" — па творчай, жыццёвай пазіцыі...

**В. Акудовіч.** Адзін раз і мяне запрасілі на пасяджэнне "Тутэйшых", за што я ім вельмі ўдзячны. Але я ішоў на той сход не таму, што быў "няшчасны" — хаця і не меў кватэры, працаваў вартаўніком і гэтак далей. Мне проста было цікава. А цяпер у мяне пытанне да "Тутэйшых": што б яны маглі сказаць ад імя свайго пакалення на маючым хутка адбыцца з'ездзе Саюза пісьменнікаў?

**А. Глобус.** У мяне заўсёды была мара — зрабіць беларускі буквар, які б чытаўся. Цяпер я вельмі блізкі да таго, каб яго зрабіць. І калі я такі буквар выдам — думаю, што зраблю больш, чым калі б сказаў нешта на будучым з'ездзе пісьменнікаў.

**В. Акудовіч.** А "Тутэйшыя" маглі б сваю кандыдатуру прапанаваць на пасаду старшыні Саюза пісьменнікаў і пралабіраваць яе?

**М. Скобла.** Старшынёй саюза трэба абіраць альбо таго, хто дрэнна піша, альбо таго, хто ўжо ўсё напісаў. А ў сітуацыі, калі пісьменнікі ў сваім доме — як падгасподнікі, і ніякімі пратэстамі-заявамі нічога зрабіць не ўдаецца, адзіны, відаць, спосаб, на які пайшлі дэпутаты тры гады таму...

**У. Конан.** Кватэры і прывілеі пісьменнікам ужо мінуліся.

**В. Акудовіч**. Лепш абраць якога прайдзісвета, які хоць нешта рэальнае будзе рабіць для саюза і яго сяброў, чым яшчэ аднаго "капітана "Тытаніка", які стаіць на капітанскім мосціку з горда паднятай барадой, грае духавы аркестр, жанчыны плачуць, а карабель тоне.

**У. Конан.** Ёсць небяспека ў лёгкай перамозе, і ёсць нейкі трыумф у паразе. "Тытанік" усё-ткі застаўся ў гісторыі, а іншыя караблі, што не патанулі, забытыя.

**А. Глобус.** Нам увесь час здавалася, што мы ідзём у нагу з часам, адпавядаем свайму часу. А мы якраз не адпавядалі часу. І зараз не адпавядаем. І на з'ездзе Саюза пісьменнікаў не будзе абрана асоба, адпаведная сітуацыі, бо мы гэтага не хочам.

**В. Акудовіч.** "Тутэйшыя" не змаглі стварыць з сябе жыццядайную структуру на гады. Яны ўсе ўступілі ў нелюбімы Саюз пісьменнікаў. У "Тутэйшых" быў шлях: стварыць сваю пісьменніцкую суполку, сваё членства ў ёй, стаць патроху, улічваючы іх імідж, альтэрнатывай Саюзу пісьменнікаў. Цікава, чаму яны ўцяклі ад адказнасці за лёс беларускай літаратуры?

**Л. Рублеўская.** Па-мойму, за лёс беларускай літаратуры кожны адказвае перш за ўсё сваёй творчасцю. А займацца пабудовай нейкай структуры, пошукам фармулёвак, адміністратыўнай дзейнасці — гэта зусім іншае. Вы ж самі сказалі, што "Тутэйшыя" — гэта творчыя індывідуальнасці. А каб ствараць нейкія сацыяльныя, грамадскія структуры, неабавязкова быць добрым пісьменнікам. Лепей быць адміністратарам.

**В. Акудовіч.** Дубавец жа стварае нейкія структуры. Глобус таксама стварыў сваю выдавецкую структуру. Значыць, патэнцыяльна яны былі здольныя здзейсніць тое самае і з "Тутэйшых".

**Л. Рублеўская.** А замест гэтага "Тутэйшыя" пачалі ствараць літаратуру.

**В. Акудовіч.** Гэта Глобус выдае літаратуру?

**Л. Рублеўская.** Калі пісьменнік ёсць у літаратуры — ён ужо ўзяў на сябе адказнасць за яе.

**А. Бяляцкі.** Мне здаецца, было дзве прычыны таму, што "Тутэйшыя" не пераўтварыліся ў альтэрнатыўны Саюз пісьменнікаў. Папершае, сапраўды ў сяброў "Тутэйшых" — розныя эстэтычныя перакананні. Па-другое, Саюз пісьменнікаў даваў рэальнае забеспячэнне членам саюза. Усе, хто тады ўступіў у саюз, атрымалі кватэры, уладкаваліся ў жыцці. "Тутэйшыя" былі нейкім "таранам", які прабіў для нонканфармістаў шлях да афіцыйна забяспечанага жыцця.

**В. Акудовіч.** Вы што, ад пачатку не адчувалі сябе як самадастатковую арганізацыю?

**А. Глобус.** Я ведаў, што гэтае пытанне будзе. Наконт любой арганізацыі... Дзеці перарастаюць дзіцячы садок. Мне на сённяшні дзень нецікавы ні Саюз пісьменнікаў, ні ПЭН-клуб. "Тутэйшыя" — не арганізацыя, гэта святое. Гэта наш цудоўны час.

**Л. Рублеўская.** Зноў прыйшлі да таго, што гэта была ўсяго толькі наша маладосць.

**В. Акудовіч.** Уся гісторыя чалавецтва — усяго толькі маладосць.

**Л. Сільнова.** Я не лічу, што "Тутэйшыя" памерлі ў канцы 80-х. Яны існуюць, займаюцца літаратурай, толькі перайшлі ў іншую якасць, іншае вымярэнне. Я не містык, і мне здаецца, што "Тутэйшыя" ўжо ніколі не паўторацца ў той якасці, у якой яны існавалі. Хто ў гэта верыць — вялікі самападманшчык. "Тутэйшыя" — з'ява унікальная. Галасы гэтай зямлі, гэтай прасторы, якія ў пэўны час выявіліся, знайшлі сваіх носьбітаў.

**А. Бяляцкі.** Я думаю, будзе яшчэ пэўны ўсплёск творчай актыўнасці "Тутэйшых", і калі чакаць у бліжэйшыя гадоў 15 нейкіх яркіх асобаў у літаратуры, то, пэўна, з гэтага асяроддзя. Мы яшчэ не дасягнулі поўнага раскрыцця свайго творчага патэнцыялу. Прынамсі, узрост дазваляе спадзявацца.

**М. Скобла.** Дзевяноста восем адсоткаў сённяшняга Саюза пісьменнікаў займаюць тую ж самую пазіцыю, як "Тутэйшыя" дзесяць гадоў таму, калі біліся лбом у дзяржаўную сцяну, дэкларуючы нейкія вышэйшыя духоўныя мэты. Абставіны прымушаюць сёння кожнага беларускага пісьменніка раптам рабіцца Мацеем Бурачком-Багушэвічам, апускацца долу, спыняцца і казаць: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".

**А. Глобус.** Тут шмат казалі: "Адрадзіць "Тутэйшых"... "Ці змогуць яны зноў жыць?" Я думаю, змогуць. Як здарылася з газетай "Наша Ніва". Але для гэтага нам усім трэба сысці. Спадар Акудовіч сказаў, што "Тутэйшыя" — міф. Каб стацца міфам, трэба памерці. А потым ужо адраджацца. Пакуль мы ёсць, цяжка гаварыць пра адраджэнне. Але я веру, што мы адродзімся. І што мы будзем адпавядаць не пакаленню "Маладняка", не пакаленню "Узвышша", а "Нашаніўскаму".

**В. Акудовіч.** "Тутэйшых" не было, як нечага больш-менш зарганізаванага і пэўнага. Найменне было накладзенае на групу людзей, якая досыць выпадкова схаўрусавалася. Міф ствараецца на мяжы таго, што ёсць — і няма.

**Л. Рублеўская.** Вы ўжо пераконвалі некалі грамадства, што вас няма. Цяпер вы нас пераканаеце ў тым, што нас няма.

**В. Акудовіч.** "Тутэйшыя" стварылі адну з найвялікшых каштоўнасцей — міф пра "Тутэйшых". У гэтым іх значнасць — а не ў тым, што яны правялі мітынг.

**У. Конан.** У прынцыпе, міф ёсць больш высокая рэальнасць, чым эмпірычная рэальнасць. "Тутэйшыя" ўзніклі, як сацыяльна-псіхалагічная з'ява, як апазіцыя існуючам у ладу і становішчу Беларусі, як [illegible]. Таму феномен "Тутэйшых" паўторы[illegible] сэнсе сацыяльна-псіхалагічным і с[illegible]палітычным — усе мы сёння "Ту[illegible]".

ЛІМ ЧАСАПІС

# Спадар Сакрат — госць коласаўцаў

**Добрай традыцыяй сталі літаратурныя сустрэчы ў музеі Якуба Коласа. Рэдка застаецца пустой гасцёўня знакамітага дома "дзядзькі Якуба". Як і пры яго жыцці, бурліць тут жыццё, вядуцца гарачыя спрэчкі, адбываюцца сустрэчы людзей, якіх хвалюе лёс роднай культуры. Не так даўно ў памяшканні музея Якуба Коласа адбывалася прэзентацыя кнігі беларускага пісьменніка з Беласточчыны Сакрата Яновіча "Сцяна". Гэта ўжо не першая кніга пісьменніка, выдадзеная ў Беларусі. Прысутных ад імя ўсіх супрацоўнікаў цёпла павітала дырэктар музея З. Камароўская. Музейцы-коласаўцы заўсёды рады бачыць у сябе пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, усіх, каго цікавіць родная літаратура. Такія сустрэчы дапамагаюць ім яшчэ глыбей разумець сэнс той вялікай справы, якой кожны з іх прысвяціў сваё жыццё.**

**Выступоўцы Адам Мальдзіс, Міхась Шаховіч, Уладзімір Гніламёдаў, Іван Яновіч, Уладзімір Арлоў, Алег Трусаў высока ацанілі творчасць Сакрата Яновіча і яго раман "Сцяна", напісаны 20 гадоў таму назад, але такі актуальны для нашага сучаснага жыцця.**

**З першых слоў выступлення самога С. Яновіча ўсе прыйшлі ў захапленне ад гэтага невысокага, хударлявага пажылога чалавека, з пашкоджаным носам баксёра, які, крыху заікаючыся, з гумарам раскрываў сакрэты сваёй творчасці. Інжынер па адукацыі, скончыўшы шмат усемагчымых курсаў, ён заўжды быў незалежным, бо не баяўся застацца без працы. Быць толькі пісьменнікам азначала ўпасці ў вачах аднавяскоўцаў, якія цэняць людзей толькі тэхнічных спецыяльнасцей. Нікога не баяцца прывучалі пісьменніка і заняткі боксам (вось адкуль прафесійнае апісанне бойкі героя "Сцяны" з п'янымі бамбізамі). Заіканне таксама дапамагло ў свой час узяцца за паперу і аловак... Вось так і вучыўся будучы пісьменнік пісаць для сябе, а не для чытачоў, палюбіўшы сам лабараторны працэс творчасці, вырашаючы свае праблемы. У родзе Яновічаў было шмат доўгажыхароў. Да таго ж, маючы ліфляндскія карані, ён прыдбаў і нямецкую аргаінзаванасць. Наогул, у поспеху ад таленту, на думку С. Яновіча, залежыць працэнтаў 20, астатняе — праца. Таленавітых людзей намнога больш, чым мы прывыклі думаць, але большасць з іх, співаючыся, прападаюць пад плотам, не прывучаючыся да працы. А да працы сялянскага сына прывучалі не толькі на палетках, але і ў першай яго школе. Адзнакі ніжэй "5" лічыліся няўдачай і цяжка перажываліся вучнямі. Маці хацела, каб сын жыў у горадзе, а не кідаў гной у хлявах... Такая працаздольнасць дапамагла С. Яновічу атрымаць філалагічную адукацыю і нават вывучыць латынь, без чаго, на яго думку, чалавек не можа лічыцца культурным. І пры ўсім тым свае творы пісьменнік піша марудна, абдумваючы кожнае слова, па шмат гадзін не ўстаючы з-за стала: работа ёсць работа. У поўным парадку трымае пісьменнік свой архіў. З запісаў пачынаецца гісторыя. Без архіва пра пісьменнікаў узнікаюць плёткі. На думку С. Яновіча, людзі павінны многа чытаць. Без чытання ўзнікае паўторная непісьменнасць, што і назіраецца ў багатых ЗША.**

**Арыгінальны погляд пісьменніка на з'явы сучаснасці выклікае ажыўленне ў зале. Прычына ўсіх цяжкасцей на Беларусі — неразвітая культура. Прычына недаразвітасці культуры — беднасць. Як у Польшчы, так і ў Беларусі з бюджэту на культуру выдзяляецца не больш чым 3% сродкаў. І гэта на тое, што робіць нацыю — нацыяй, на чым трымаецца ўсё, вакол чаго ўсё круціцца. Вось тут ЗША могуць быць прыкладам. Там з бюджэту на культуру нічога не выдзяляюць, але затое даюць падатковыя льготы тым, хто дапамагае развіццю культуры. І грошай на культуру хапае. На Брадвеі тэатраў больш, чым ва ўсёй Беларусі з Польшчаю разам.**

**З такім жа гумарам С. Яновіч распавядаў пра цяжкасці з перакладамі. Найгоршыя пераклады чамусьці на рускую мову...**

**На заканчэнне пісьменнік прачытаў маленькае апавяданне "Доўгая смерць Крынак". Нешта знаёмае-знаёмае адчуваецца ў невялічкім творы, можа, падобным у чымсьці на вершы ў прозе І. Тургенева. Якім жа майстрам трэба быць, каб так кранаць душу словам, каб так перадаваць сэнс жыцця!**

**Пісьменнік падпісаў усім прысутным свае кніжкі, знайшоўшы кожнаму трапнае слова, а жанчынам яшчэ і маляваў адным росчыркам кветку, абвяргаючы свае ж словы пра рэдкасць у аднаго чалавека некалькіх талентаў.**

**Уладзімір ЖЫГАДЛА**

ПАЭЗІЯ

Раіса БАРАВІКОВА



## З "Нечаканых вершаў"

•

*Галаву да шалу замарочыць...*
*І не скажаш сэрцу ўжо: замры!*
*Дзе ж былі раней такія ночы?*
*Люты распракляты на двары.*

*Д'ябал з ім,*
*з жыццём гэтым нікчэмным.*
*Пойдзем, ды памолімся на крыж...*
*Чад далярны, дух ва ўсім гарэмны,*
*а ў мяне з табою свой Парыж.*

*Казка недаказаная некім...*
*Мы яе сатворым да канца.*
*Творца мой, у кожным слоўку лекі,*
*да якога ж рушым мы Вянца?*

*Ты прысядзеш ціхенька на ложак,*
*ноч схавае ў снег сваю нуду,*
*на агонь, ужо апошні, можа,*
*я такой бязгрэшнаю іду.*

*Так, нібы дасюль не цалавалі,*
*бы й не спавівалася зусім*
*хмелем горкім і салодкім жалем,*
*жаль і хмель — усё ў табе адным!*

*Снег кладзецца ў роскіды на шыбы,*
*ў шэпце патанаю дарагім...*
*Ноч і ноч. Самкнула Вечнасць нібы*
*ўсе свае над намі берагі.*

•

*Мой Н... Далей не буду. Гэта грэх*
*цікавасцю дражніць людзей пачцівых.*
*Мне сорамна за мой салодкі смех*
*і горка за пагляды нешчаслівых.*

*І ўсё-ткі Н... На дыбачках прад ім*
*кружыся феяй, матыльком вясновым,*
*і вочы засціць лёгкі мройны дым,*
*і тлумны свет ва ўсім глядзіцца новым.*

*Дзесь арганіст садзіцца за арган.*
*І хтось Нябачны лёсы нашы вершыць.*
*Мой мілы Н... Вам выпала — раман!*
*Мне ж толькі строфы нечаканых*
*вершаў...*

### З "ВАСЬМІРАДКОЎЯЎ АПОШНІХ ПАЦАЛУНКАЎ"

•

*Ну вось і скончана яна, —*
*вясёлых клічнікаў паэма.*
*Любоўнай паўзы — сцяна.*
*Ліхтар, бы зорка Віфліема.*

*"Не спакушай мяне,*
*не зводзь...", —*
*гучыць, гучыць твой голас родны.*
*Чаму ж? Так вырашыў Гасподзь,*
*а шлях у Бога ўсякі годны.*

•

*Вы так спакусна падміргнулі,*
*што досыць — аніякіх спраў!*
*Гулліві месяц свае гулі*
*ў аблоках лёгкіх распачаў.*

*Ужо займаецца дзянніца.*
*У крэсле змяты сарафан.*
*І як жа мне салодка сніцца*
*галавакружны ваш падман.*

•

*А-у... А-у!.. Палац гатычны.*
*Лёг зайчык сонечны да ног.*
*Агеньчык бліснуў эратычны*
*у вашым позірку, дальбог!*

Святлана БАСУМАТРАВА



## "Свет — непаўторны, жывы..."

### Запавет

*Лістота зззяе залатым абрусам,*
*Абтрэслі дрэвы сумныя яе,*
*Спрадвек яна знаёма беларусам,*
*Прымова: "Што згарыць, то не згніе".*
*Як і суседкі, ссохлую лістоту*
*Мы з мамаю выходзілі зграбаць.*
*Любіла я вясёлую работу:*
*Гарод і сад да зімкі рыхтаваць.*
*Курыўся дым, патрэсквалі галінкі.*
*І курчыўся бульбоўнік на жарстве —*
*Спраўляліся ўрачыстыя памінкі*
*Па шчодрым пладаносным харастве.*
*Быў дадзены загад аднойчы просты:*
*У сувязі з аварыяй ЧАЭС*
*Лістоту не паліць, рабіць кампосты,*
*Каб дым атрутны ў лёгкія не лез.*
*Мне й сёння сняцца вулачкі ля рэчкі,*
*Дзе з надыходам восеньскай пары*
*Гараць ля весніц вогнішчы, як свечкі,*
*Як тыя памінальныя кастры...*
*Жыццё — не вечнасць,*
*толькі міг маленькі,*
*Чакае смерць усіх да аднаго,*
*І застануцца дзве сівыя жменькі*
*Ад існавання грэшнага майго.*
*Нашчадкам запавет пакінуць трэба:*
*Дык хай, калі пахаладзее скронь,*
*Душа мая адправіцца да неба,*
*А цела — не ў зямлю, а у агонь.*
*Хай прыскам стане стомленае цела.*
*— Навек бывайце, родныя мае.*
*Не трэба слёз. Я так сама хацела.*
*Бо знаю: што згарыць, то не згніе.*

### Совы і жаўранкі

*Лёс то шашою, то сцежкай крывою,*
*То — на прастор, то ў хмызняк завіне.*
*У маладосці была я савою,*
*Жаўранкам сталасць зрабіла мяне.*
*Жаўранкі рана нясуць тэлеграмы,*
*Мыюць асфальт, тратуары мятуць.*
*Жаўранкі —*
*нашы нястомныя мамы —*
*Дояць кароў і аладкі пякуць.*
*Ноччу прывыклі не спаць машыністы,*
*І хлебапёкі, і вартаўнікі.*
*Кружаць па вуліцах совы-таксісты,*
*Совы-паэты ствараюць радкі.*
*Ў доме насупраць заплакаў дзіцёнак,*
*Свеціцца ў цемры вакна светлячок:*
*Мо закапрызіў маленькі савёнак,*
*Можа, прачнуўся малы жаўручок...*
*Свет — непаўторны,*
*жывы, адмысловы*
*З радасцю, смехам, журбой ці слязьмі.*
*— Будзьце вы жаўранкі.*
*Будзе вы совы.*
*Важна адно — заставаца людзьмі.*

### Дзядзька Коля

*На грудках чарнее поле,*
*Снег адталы дзе-нідзе...*
*Дзядзька Коля дровы коле,*
*Спрытна ў клетачку кладзе.*
*Пакуль цётка смажыць скварку*
*(Боршч паспела ўжо зварыць),*
*Дзядзька скручвае цыгарку*
*І садзіцца пакурыць.*
*Круглатвары і бялёсы,*
*У бяседзе гарманіст,*

Анатоль ДЭБІШ

## І загучала музыка святая

•

*Чую я там, за халоднай сцяной,*
*Крокі паненкі па вуліцы начной, —*
*Горад глухі і пусты...*
*Гэта — не ты.*

*Вечар. Люстэрка. Цябе не стае.*
*Свечка маўклівая гарыць на стале.*
*Хтось па падлозе раскінуў лісты...*
*Гэта — не ты.*

*Хваля. Другая. Як цягнецца час!*
*Вось і ліхтар перад пляцам пагас.*
*Жудасна. Дом няматы.*
*Рыпнулі дзверы... Не ты!*

*Нехта мілуе пяшчотна мяне:*
*Рукі плывуць ручаём па спіне —*
*Шэпчаш забыты матыў...*
*Вочы расплюшчу... Не ты.*

### Дарога

*Нядоўгім было гэтай ночы змярканне,*
*Так цела маё залюляла дарога.*
*Гляджу праз акно, дзе рассейвае ранне*
*Над полем пялёсткі святла залатога.*

*У небе вясновым, бажніцы спакою,*
*Я чую птушыныя звонкія спевы...*
*Цягнік пракрычаў, і ў далечу са мною*
*Зямля паплыла, і аблокі, і дрэвы.*

*Ужо разлічыць аніяк немагчыма*
*Карункаў зямных і нябесных адценні,*
*Як быццам жыццё праплыло*
*прад вачыма, —*
*Згадаў я маленства гады і імгненні.*

*Усё разляцелася ўраз на часцінкі,*
*Не ведае кожная з іх, дзе блукае,*
*Як постаць, з дзяцінства,*
*маленькай дзяўчынкі,*
*Якая вяртання дагэтуль чакае.*

•

*Па вулках Мінска крочу. Ранне.*
*У лужынах люструецца вада.*
*Пляц Волі спіць. Касцёла белы дах*
*Нябёсам творыць светлае літанне.*
*Гатэль. Кінатэатр. І крама "Кніга".*
*У нетрах спіць стамлёная Няміга,*
*Не здолеўшы прабіцца да святла.*
*Карчма... Вітрыны... Я праходжу міма.*
*Вось постаць Багдановіча Максіма*
*Ля сходкаў тэатральных успілыла.*
*І загучала музыка святая.*
*Каму на золку вершы ён чытае,*
*Ахутаны туманам залатым, —*
*Свайму народу, пращурам сваім?*
*Ён кажа пра вясну,*
*пра край свой белы...*
*Паводдаль самадайка сваё цела*
*Натоўпу спазаранку прадае.*
*І сонейкам вясновым залюляны,*
*"Тра-ля-ля-ля", — дзядок спявае п'яны,*
*Спрачаюцца пра нешта два іваны...*
*...А мне так Беларусі не стае.*

•

*Ці не тваімі вуснамі*
*шаптала вясна,*
*калі на беразе соннага Мухаўца*
*сядзелі мы побач*
*і твае дрыготкія далоні*
*песцілі поўню?*

*Ці не тваімі вачыма зззяла сонца,*
*калі ў першых ранішніх промнях*
*па тумане вады плылі мы,*
*даручаючы веснаму небу*
*цэлаў сваіх адлюстраванні?*

*Ці не тваім дыханнем*
*саграваласа зямля,*
*калі, стомленыя ад доўгага купання,*
*на жоўтым ручніку пляжа*
*аддаваліся мы асалодзе*
*і забыццю?*

*Птушкі і нябёсы,*
*дрэвы і кветкі,*

*Скідае пёрка голуб нам.*
*Любуемся разьбой калоны.*
*Вы штосьці гаворыце, а там..,*
*бы пазяхаюць Купідоны.*

●

*Яшчэ адной зіме канец.*
*Шукаюць вераб'і праталін.*
*Куды ж вы дзеліся, ілжэц,*
*нібы ў авацыях расталі.*

*Працёрты плюш стары да дзір.*
*Партэр здаля глядзіцца пляцам.*
*Я бараніла ваш мундзір,*
*а вы схацелі быць паяцам.*

●

*Я іх не ведаю, дальбог,*
*саперніц... Абмінула гэта.*
*Пылок унепрыкметку лёг,*
*а я любуюся паркетам.*

*Прасую, строю да Каляд*
*сурвэтак лёгенькіх бярэма.*
*Так звыкла ўсё, толькі пагляд*
*цяжкі, бы ў старшае з гарэма.*

●

*Руку падасць абы-абы...*
*Я ж адзначаю падсвядома,*
*яму так хочацца пабыць*
*на мове свецкай сябрам дома.*

*Няцяжка зразумець яго, —*
*нядаўняга ўлюбёнца Ліры,*
*што не ўсвядоміць аднаго:*
*мяняюцца не людзі, а куміры.*

---

*Дзядзька Коля — не філосаф*
*Ён — калгасны трактарыст.*
*Толькі ў вольныя мінуты*
*Любіць ён паразважаць,*
*Кажа: "Вось і месяц люты.*
*Снег не думае ляжаць.*
*Дождж зімой — ну, каб ты спрахнуў.*
*Сад — па пояс у вадзе.*
*Той Чарнобыль як бабахнуў —*
*Толку ў нас няма нідзе.*
*Вось табе і мірны атам.*
*Нібы мухі, мрэ народ"...*
*Дзядзька вылаяўся матам*
*І шпурнуў "бычок" пад плот.*

## Перазовы

"Не вабяць ні вядомасць, ні рублі..."
(З ранніх вершаў)

*Калісьці ў юныя гады*
*Хапала хлеба і да хлеба.*
*Усмак пісалася пра неба,*
*Пра шум дажджу і плынь вады —*
*Такі быў слаўны час тады.*
*А што вядомасць? — Два бакі*
*Манеты, ці арол, ці рэшка.*
*Ці захапленне, ці насмешка,*
*Ці рэверансы, ці штуршкі —*
*Адной манеты два бакі.*
*Заведзена спрадвеку так:*
*Каб заказаць абед харошы,*
*Патрэбны немалыя грошы.*
*Амаль заўжды жабрак — спявак.*
*Спявак — амаль заўжды жабрак.*

---

*сонца і вецер, —*
*ці не тваім народжаны шэптам:*
*"Кахаю!"*

## Вяртанне

*Адчыню заржавелыя весніцы,*
*сяду на струхлелы ад часу ганак*
*і зайграю на гармоніку*
*песні маіх продкаў:*
*бацькі і дзядулі,*
*ворагаў і сяброў.*

*І паляцяць да нябёсаў птушкі,*
*кожная несучы на крылах*
*дні, пераяжытыя мною.*
*Адны з іх стануць зоркамі,*
*другія — толькі плямамі на зорках,*
*трэція — зноўку вернуцца да мяне.*

*І ўбачу я на крылах адлюстраванне:*
*сваё маленства і шырокую,*
*на ўвесь свет, дарогу,*
*што вядзе мяне ўдалеч*
*ад роднага дому,*
*у вясняй квецені яблыневы сад,*
*заплаканыя вокны хаціны*
*і развітальны позірк матулі...*

*І ў сад я ўвайду,*
*дзе на цяжкіх галінках*
*замест яблык спеюць камені.*
*І трэсці іх буду давідна,*
*пакуль апошні не ўпадзе пад ногі...*

Ніна МАЦЯШ

# Прыстанак завецца "Шлях"

●

*Я маю толькі імя.*
*Чатыры літаркі —*
*нібы чатыры бакі свету.*
*Твор,*
*мне прадвызначаны*
*дзеля перастворы*
*у плынь жыцця.*
*Тайнапіс лёсу, каторы*
*спрабую адтаемніць.*

●

*Звычайны,*
*беспадзейны дзень.*
*Нічога не чакалася,*
*і ўжо нічому сёння не адбыцца.*
*Лілейкай гойдаецца сэрца*
*ў затоцы*
*пяшчоты невытлумачальнай...*

## Скрыпач

*Уцёк у мушлю музыкі,*
*а так глыбока,*
*так глыбока,*
*што да яго балкона на другім паверсе*
*не дапясці*
*ужо ніякім воклікам*
*вячэрняга Парыжа.*

*Стаіць сабе скрыпач і грае*
*на ўласным беразе —*
*нямнога для бадзяжнікаў*
*аглухлых —*
*іншасвету:*
*у мушлі музыкі.*

## Дарунак лёсу

*Аж з будучыні*
*у шчылінку між немагчымасцю і сном*
*патрапіць*
*бляск ад свяцільні*
*людской зычлівасці ды шчодрасці*
*душэўнай —*
*і адлагодзяцца*
*намеры злыя часу і прасторы,*
*адладзяцца варункі,*
*каб прагучала прыбянтэжанае —*
*а хоць такое во —*
*прызнанне:*
*— Дарунак лёсу —*
*падарожжа гэтае маё ў Парыж...*

●

*І ветрам звейваліся,*
*і натоўпамі затупваліся,*
*паліліся апоўдні сонцам,*
*а апоўначы*
*з усякім смеццем разам*
*змываліся вадой, наплыўнай*
*з-пад парыжскіх тратуараў,*
*сляды ног нашых.*

*...Ды вось —*
*выглядваюць,*
*жывыя,*
*з закануркаў памяці*
*і нам вяртаюць*
*не сухаліст вандроўкі,*
*а востры водар квету*
*духа чалавечага*
*і да людзей любові.*

●

*Узіраешся ў побыт —*
*бы расчытваеш почырк чужы,*
*незнаёмы.*

*Зноў і зноў намагаешся ўцяміць*
*сэнс кожнага знаку —*
*інакш*
*застанецца замкнёны*
*сэнс*
*і слова, і тэксту ўсяго.*

*Можа, гэтым хоць разам*
*патрапіш?*

## Купальскае

Галіне СКАРЫНЕ

*Юдольныя,*
*і плацім мыта*
*За ўсё, што выпадзе ў дарозе:*
*Найперш —*
*за пыл ды за камене,*
*За град*
*і за няшчаду спёкі,*
*Але —*
*і за глыток з крыніцы,*
*І за ліповы пах мядовы,*
*І за сцяжыну прад вачыма,*
*І за валошку каля сэрца...*

*А Купалка зноў гукае*
*Ночкі цёмнай не баяцца,*
*Кветку-папараць шукаць...*

---

Мікола МІШЧАНЧУК

## Праметэй

*Пазбаўлены зроку, далёка,*
*Прыкуты да чорнай скалы,*
*Ты стаў усёбачным прарокам*
*Зялёнай планеты — Зямлі.*

*Ты стаў яе светлым сумленнем,*
*Вясной сярод лютай зімы...*
*З цябе пачынаецца геній,*
*З цябе пачынаемся Мы.*

*Зноў сэрцы прабітыя болем —*
*Не толькі сваім! — навылёт,*
*І мары імкнуць нас на волю,*
*Вядуць у надземны палёт.*

*Затраціўшы сілаў нямала,*
*Ляцім мы да змрочнай скалы,*
*Дзе сэрца прарока палала*
*Сярод неаглядная імглы...*

*Апошняе прыйдзе імгненне.*
*Жыццёвы закончыцца шлях.*
*І станем мы — кропляй сумлення*
*Зялёнай планеты — Зямля.*

Васіль СУПРУН

●

*Пытаеш —*
*чаго я хацеў бы ад Неба?*
*Чаго яшчэ сэрцам чакаю?*
*— Самому мне, браце, ўжо многа не трэба,*
*жадаю ж дабра свайму Краю.*

*Хачу, каб народ наш*
*даверлівы, ціхі,*
*стаў вольным і дзякаваў Неба*
*за ласку,*
*што ўрэшце*
*пазбавіла ліха.*
*І больш мне нічога не трэба.*

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## Ян Райніс і беларусы

*Калісьці зяленай была трава,*
*Блакітнеі неба і лагодней сонца.*
*Тут беларусам памагаў трываць —*
*Сам Райніс — наш дарадца, абаронца.*

*Ці, можа, што з дзяцінства*
*тут пры ўсім —*
*І песня беларуская запала,*
*Ці, мабыць, што аб тым яго прасіў,*
*Наведаўшыся ў Латвію, Купала?*

*Каб тут сабой саміме быць маглі,*
*Каб тут сваёй не выракліся мовы,*
*Каб школы й беларускія былі —*
*У Сейме Райніс сцяг трымаў прамовы.*

*Таму так моцна вестка апякла,*
*І беларусы плачу не хавалі,*
*Калі свайго заступніка хавалі:*
*А хто ж цяпер нас будзе апякаць?!*

*Ды зноў трава нам стала зяленай,*
*Блакітней неба і лагодней сонца,*
*Бо Райніс там, у зорнай старане,*
*За нас замовіў перад Богам слоўца...*

## Край дарагі

Адаму МАЛЬДЗІСУ

*Свяціцца наш край дарагі:*
*Тут сонца над ім, нібы німб*
*І поўня над ім, нібы німб,*
*Тут зёлкі растуць ад тугі,*
*Дзе нашы жывуць карані*
*І б'е дабрыня з глыбіні...*

*Зноў туліць нас край дарагі,*
*Чырвоны рабінавы кут,*
*Дзяцінства лугі-берагі,*
*Юнацтва лясы-верасы.*
*Вясна сярод восені тут —*
*Чуваць салаўёў галасы...*

Марк СМАГАРОВІЧ

●

*Лічы, што льготы ўсе прапалі,*
*І што каму да тваіх ран?*
*Маўляў, насі свае медалі,*
*Любуйся імі, ветэран!*

●

*Паглядзі, падумай, памаўчы.*
*Паляцела к чорту ўсё, у прах!*
*Вырай не блудзіцца ўначы,*
*Ёсць не ў нас, а ў птушак "Млечны шлях".*

Тамара МАЗУР-БАЎТРУКЕВІЧ

●

*У кожнага вера свая — не судзіць!*
*Ды кланяцца ідалам — грэшная сіла.*
*Тым часам бяздонна ямай глядзіць*
*Разрытая царскага роду магіла.*
*Астанкі лістоты гараць на кастры,*
*Пах дыму — не больш,*
*чым мінулага згадкі.*
*І ў нашых у Гродне, у Лідзе, Міры*
*Пра іншае нешта напішуць нашчадкі.*

*Заўчасна зіма на прыціхлым двары,*
*Хоць восені толькі й збылося — палова...*
*Так хочацца крыху зрабіцца мудрэй,*
*Замовіць за сябра харошае слова.*
*Да дужых плячэй прытуліцца яго,*
*Сказаць: — Як стамілася з кідкае ролі,*
*Вазьмі мяне ўвесну да родных лугоў,*
*Да нівы жытнёвай, да вечнага поля.*

Анатоль ШУШКО

●

*Зляпіў мяне мой Бог з памылак.*
*І, як анёлка, між людзей*
*Пакінуў. Той бяды! Ды крылы*
*Забраў з сабою, дабрадзей.*

*Адно, што ў хвілю развітання,*
*У садзе вечным дум і гам*
*Гукнуў: "Супроць іх не паўстанеш —*
*І аз воздам!"*

●

*А думка прагне адкрыцця,*
*Бо цягне творцу з небыцця,*
*Бо, гойным словам апавіты,*
*Бо, промнем сонечным абліты,*
*Ён чуе ў зыку самавітым,*
*Што страх, як здзек, з душою — квіты.*
*Бо думка, вартая жыцця,*
*Вяртае веру адкрыццю.*

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## Глыток нарачанскай вады

У вянок Максіму Танку

*Аднойчы ранняю вясною,*
*Далёка ад сталічных з'яў,*
*Над Нараччу я пад сасною*
*Адзін на беразе стаяў.*

*Вясна на крыгах адплывала*
*Далей — не разглядзець куды —*
*І з-пад ільдзінкі я адталай*
*Далонню зачарпнуў вады.*

*Празрысты, як сляза, крыштальны*
*І светлы быў яе глыток,*
*Як вечны і невычарпальны*
*Для ўсёй паэзіі выток.*

*Акінь вачыма і пабач ты*
*Максіма Танка родны кут.*
*На белых ветразях пад мачтай*
*Ішлі ад сэрца вершы тут.*

*Свае зіму, вясну і лета*
*Па кроплі піў я — з той вадой,*
*З радзімай слаўнага паэта*
*Дзяліў і боль і смутак свой.*

Святлана ЯВАР

●

*Толькі кругі па вадзе разышліся —*
*згінула мара, як не было.*
*Гоніць віхура пажоўклае лісце*
*там, дзе сваё збудавалі б жытло.*

*Я прытулюся шчакою да церня:*
*ці заслужыла нядолю і боль?*
*Крохкасць надзеі: мо час цябе верне?*
*перамагае зямную юдоль.*

## Вучаць гармоніі

**Сусветны Духоўны Універсітэт “Брахма Кумарыс” існуе ўжо 60 гадоў. Ён мае цэнтры ў 72-х краінах свету (у тым ліку і ў Мінску), а сваёй задачай лічыць стварэнне мірнага, здаровага грамадства цераз змену свядомасці, цераз усебаковае ўдасканаленне асобы. Асаблівасць адукацыі заключаецца ў тым, што гэтая недзяржаўная навучальная ўстанова дае веды духоўнага кшталту — па этыцы, псіхалогіі, метафізіцы, філасофіі, сусветнай гісторыі і культуры. Адметнасць яшчэ і ў тым, што навучэнкамі ў большасці з'яўляюцца жанчыны.**

**У асноўным жаночай была і аўдыторыя, што сабралася ў ДК “Юнацтва” на сустрэчу са старшым выкладчыкам універсітэта Дзідзі Сантош (Індыя). Яе лекцыя называлася так: “Станоўчае мысленне — аснова гарманічных узаемаадносінаў”. Усведамляць, чаго — станоўчага ці адмоўнага — больш у нас саміх, адчуваць атмасферу вакол нас, задумвацца пра ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі — вось тры галоўныя моманты, на якія мы павінны звяртаць увагу ў штодзённым жыцці.**

**Сустрэчы папярэднічала прадстаўленне батлейкі, наладжанае студэнткай універсітэта, выхавальніцай дзіцячага санаторыя Жанай Царанковай. Яна ж прачытала і ўласныя, на роднай мове, вершы.**

**Г. З.**

## Рахманінаўскае свята ў Гродне

**125-гадовы юбілей Сяргея Рахманінава, які шырока адзначаецца ва ўсім свеце,не абмінуў і Гродна. Дзякуючы дзейнасці Гродзенскай капэлы мясцовыя аматары музыкі мелі магчымасць аддаць даніну памяці вялікага кампазітара і тым самым зноў не апынуцца ўбаку ад сусветных падзей музычнага жыцця.**

**Калектыў Гродзенскай капэлы вынес на суд слухачоў тры буйныя канцэртныя праграмы, якія, канешне, не ахапілі ўсёй шматграннай жанравай палітры рахманінаўскай спадчыны, але даволі поўна пазнаёмілі з асноўнымі кірункамі творчай дзейнасці знакамітага майстра. Так, камерны хор Гродзенскай капэлы, які ўзначальвае Л. Іконнікава, выканаў “Усяночную”, некаторыя іншыя духоўныя і свецкія харавыя творы. Ансамбль салістаў пад кіраўніцтвам А. Сматрыцкага пазнаёміў гродзенскую публіку з незакончаным струнным квартэтам і віяланчэльнай санатай (выканаўцы І. Грыц, Л. Нікіціна), якія вельмі рэдка гучаць на канцэртных пляцоўках, ужо не кажучы пра Гродна, дзе яны выконваліся ўпершыню. Прагучалі таксама Элегічнае трыо і рамансы, якія спявала салістка капэлы, лаўрэат рэспубліканскага і міжнароднага конкурсаў І. Дзмітровіч (сапрана) у суправаджэнні фартэпіяна (Л. Нікіціна) і ансамбля салістаў.**

**Сапраўднай кульмінацыяй рахманінаўскага свята стаўся апошні канцэрт, дзе зноў гучалі вакальныя творы кампазітара (спявалі М. Гаравая, А. Балтрукевіч, канцэртмайстар А. Лябецкая, а таксама музыка для фартэпіяна: эцюды-карціны, прэлюды, Варыяцыі на тэму Карэлі (гралі Б. Тэрмён, У. Лябецкі, А. Лябецкая і Д. Ігнатаў). Змястоўны каментарый музыказнаўцы Л. Мажэйкі дапамагаў слухачам пранікнуць у сутнасць рахманінаўскіх твораў і атрымаць асалоду ад сустрэчы з яго цудоўнай музыкай.**

**Прыемна адзначыць, што адным з творчых кіраўнікаў дзейнасці Гродзенскай капэлы зрабілася ўшанаванне памятных музычных дат. Леташнія канцэрты з нагоды 200-годдзя Ф. Шуберта, сёлетнія рахманінаўскія, падрыхтоўка праграмы да юбілею Дж. Гершвіна, абмеркаванне планаў шапэнаўскіх святаў і г. д., — гэта, бясспрэчна, не толькі дае новыя творчыя стымулы для артыстаў капэлы, але і ўзбагачае музычнае жыццё Гродзеншчыны. А гэта — адна з галоўных задач калектыву.**

**Аляксей САЛАДУХІН,**
**мастацкі кіраўнік-дырэктар Гродзенскай капэлы**

## Разгарайся, “Полымя”!

**8-га красавіка ў Ліцэй БДУ завітаў вядомы беларускі паэт, публіцыст, галоўны рэдактар часопіса “Полымя” Сяргей Законнікаў. На сустрэчу з госцем прыйшлі вучні амаль з усіх класаў: не толькі будучыя філолагі, але і матэматыкі, гісторыкі, хімікі.**

**Сяргей Іванавіч падзяліўся ўражаннямі ад свайго цярністага, але, па вялікім рахунку, шчаслівага жыцця паэта, а таксама творчымі планамі: сваімі і рэдакцыі часопіса “Полымя”.**

**М. КАРДАШ**

ВІНШУЕМ!

# Іскра ў попеле

## Рыгору РЭЛЕСУ — 85

Драўляны дом па вуліцы Энгельса. Халодная падлога, бо зямля блізка. На вакне ляжаць спелыя, сакавітыя, як лаянка балаголаў, ігрушы. П'ём нейкае саматужнае віно. Не слабое й не моцнае. Хаім Мальцінскі, якому радзіма аддзячыла ссылкай за тое, што дайшоў да Берліна, страціў ногі, ды я, востракадыкі й стогачупрынны малады паэт, — у высокага, танклявага, спакойнага настаўніка школы рабочае моладзі й яўрэйскага паэта. Мне гаспадар дае самую большую ігрушыну. Мне ў выдавецтве даверылі перакласці кнігу вершаў Рыгора Рэлеса. З гэтае кнігі, якая выйшла й называлася “Бяроза пад вакном”, пачыналася мая перакладчыцкая праца, праца, якую аднойчы Васіль Быкаў назваў дужа смалістай.

Вершы й разважлівыя, роздумныя, й паяўрэйску хітравата-мудрыя, паэмы з незабытым местачковым каларытам. Перакладаць было й цяжка, бо першы раз цалкам кніжку рабіў, і ўсцешна, бо пазнаваў і сваё мястэчка. Вушача й Чашнікі — радзіма Рыгора Львовіча Рэлеса — геаграфічна й душэўна блізкія.

Быў у рукапісе верш “Іскра ў попеле”, ён тагачаснай рэдактуры на чале з загадчыкам, якога мастак Юзаф Пучынскі называў варшаўскім афіцыянтам, здаўся крамольным. Відаць, адчулі, што гэта была не марксісцкая іскра ды яшчэ ў попеле. Знялі, каб не азмрачаць ясныя й пільныя вочы цэнзуры, якая цнатліва, быццам тая прастытутка, называлася Галоўлітам. Пра аплату й казаць не варта. І аўтару й перакладчыку заплацілі па стаўках меншых, чымся плацяць машыністкам за перадрук. Яшчэ ва ўмовах канспірацыі па-бальшавіцку насіў аўтар сувеніры ў шкляной упакоўцы памянёнаму загадчыку рэдакцыі. Але кніга выйшла й разышлася. Не залежылася. Хоць, як цяпер разумею, рабіў я з сырадою парашковае малако.

Потым перакладаў падборкі вершаў Рыгора Рэлеса й паэмы. Што называецца, ужыўся ў паэтычны свет, на жаль, апошняга яўрэйскага паэта ў Беларусі. А Беларусь жа была фактычна калыскай яўрэйскай (на ідыш) паэзіі. Паколькі класікі нарадзіліся ў нас, дык шмат якія беларускія словы ў першародным выглядзе абжыліся ў ідыш.

Рыгор Рэлес з'ездзіў усю Беларусь, запісваў, збіраў рэшткі мудрасці свайго народа, пісаў пра яўрэяў, якія ацалелі ад навалы. Дый сам паэт цудам ацалеў ад перадваеннага й пасляваеннага хапуна. Можа, таму, што прымаў, як яўрэі кажуць, лыжку нематы. І яшчэ ратаваў Рыгора Рэлеса гумар. Відаць, і ў пекле жыве гумар. Забылася чорнае, страшнае, засталося ў памяці вясёлае. Смех праз слёзы, ці што. Помняцца Чашнікі, помняцца землякі, якія таксама ратаваліся гумарам.

У першыя гады савецкай улады суддзёй зрабілі шаўца Мэндэле. Першы суд. Судзяць канакрада. Навапрызначаны суддзя пытаецца:

— Як па старым кодэксе, колькі гадоў?
— Чатыры.
— А скідкі ёсць?
— Парабак.
— Два гады далоў.
— У чырвонай арміі служыў.
— Яшчэ два гады скінуць.
— У арцель уступіў першы.
— Яшчэ два гады далоў.

Атрымалася шэсць гадоў скідак. І ў выніку вынеслі рашэнне: цяпер, калі ўкрадзе збрую, будзе ў разліку.

Праўда, пазней, калі савецкая ўлада ўбралася ў пер'е, як кажуць, судзілі працэй. Суд над Ізі Харыкам са смяротным прысудам доўжыўся 15 хвілін. Нарасло савецкіх прафесіяналаў.

А чаго варта лірычна-камічная навела пра чашніцкага ваданоса. Калі Рэлес вучыў Біблію, дык Майсей уяўляўся яму гэтым ваданосам. Насіў ваду з крынічнай Вулянкі. За су́ды (два вядры) браў пяць капеек. Калі яму аднойчы гаспадыня хацела заплаціць 3 капейкі, аднёс ваду назад і выліў у рэчку. Палічыў за абразу вады. Па ваду йшоў задворкамі, каб не сустрэць каго з пустымі вёдрамі. Шанаваў беларускую традыцыю. Бо сустрэць каго ці перайсці дарогу з пустым — на няўдачу. І наадварот, ад рэчкі з поўнымі вёдрамі йшоў па галоўнай вуліцы. З поўным — на шчасце, на шанцаванне. Ваданос дужа клапаціўся пра рэчку. Глядзеў, каб пралі бялізну, каб дзеці купаліся ўніз па плыні. І калі пабудавалі ля рэкі фарбавальню, прыгразіў, што спаліць яе. За гэта пасля прыпісалі яму правы ўхіл. Нейкі час працаваў на каланчы ў пажарнай. А пасля змушаны быў уцякаць ад рэпрэсіі як праваўхіліст.



У Віцебску, як малады журналіст, часта сустракаўся Рэлес з Пэнам — настаўнікам Шагала. Неяк Пэн расхвалявана заўважыў пра свайго вучня:

— Я яго вучыў, вучыў, а ён малюе чорт ведае што.

— І сапраўды мазня, — захацеў падтрымаць старога майстра Рэлес. Ды Пэн адразу ўзарваўся:

— Не ўздумай так называць.

Рэлес не здаваўся:

— У яго й людзі й каровы лётаюць.

Пэн працягваў:

— Ты пішаш, як усе. У цябе ў вершах могуць людзі лётаць?

— Могуць. Гэта ж у вершах, — пасмяleў малады паэт.

Рыгор РЭЛЕС

### Далёкі агеньчык

*Мяне ў часіны пошукаў, памкненняў*
*Цягнула некуды.*
*І як знарок*
*Агеньчык блізкі і ўцякаў, і менеў,*
*Не падпускаў нікога*
*Хоць на крок.*

*А сёння ўжо*
*І сам не разумею,*
*Куды б мяне завёў*
*Агеньчык той.*
*Ды лепей мець далёкую надзею,*
*Чым так блукаць у цемрадзі пустой...*

### Рукапісы гараць

*А рукапісы не гараць —*
*Даўно гэта ўсім вядома.*
*А я магу даказаць —*
*Гараць яны, як салома.*

*Попелу шчопаць ад іх*
*І застаецца, і стыне.*
*Ветру слабенькі ўздых —*
*І ўсе яны ва ўспаміне.*

*Я ў Бога спакою прасіў,*
*І думку свае й намеры*
*У памяці ціха насіў,*
*Баяўся даверыць паперы.*

*І хоць застаўся жывы,*
*Ды ўсё, што хаваў упрытай,*
*Выветрылася з галавы,*
*Як віно з пасуды адкрытай...*

### Пра тое, што даўно вядома

*У народзе кажуць здаўна:*
*Як вякамі вялося, вядзецца —*
*У карэце імчыцца мана,*
*Праўда шчырая пешкі пляцецца.*

*Новы час.*
*Новыя ля стырна.*
*Ды па-даўняму жмурацца ўсмешкі.*
*У лімузіне імчыцца мана,*
*Праўда ўсё яшчэ*
*Цягнецца пешкі.*

### Такая доля

*Даўно ўжо дом пакінуў свой падмурак.*
*Даўно ніхто наўкола не жыве.*
*А дрэвы ў засені аблокаў хмурых*
*Стаяць здзічэла па сукі ў траве.*

*Пячэ спякота іх, сячэ залева,*
*Даймаюць беспрытульных халады.*
*Адно ўбаку стаіць самотна дрэва,*
*Ды да яго вядуць усе сляды.*

*Яму сукі выкручваюць, як рукі.*
*У ход ідуць і камяні і кіі.*
*А дрэва помніць маладыя гукі,*
*Калі былі малыя салаўі.*

*Чаму ў яго такая злая доля,*
*Чаму за ўсіх пакуты церпіць так,*
*Чаму ўцячы адсюль не можа ў поле?*
*У яблыкаў яговых райскі смак...*

### Маё вяртанне

*У дні нягодаў верыў цуду,*
*Быў сам сябе суцешыць рад:*
*Надыйдзе дзень,*
*Свой клопат збуду*
*І паспяшаюся назад*

*У свет маленства,*
*Там, дзе хаты*
*З бярвення цёплага яшчэ,*
*Дзе бусел, як і цень,*
*Цыбаты,*
*Дзе ціха*
*Рэчка й час цячэ.*

*Зраблюся птахам*
*І паволі*
*Над незабытым палячу,*
*Над крушняю,*
*Што дрэмле ў полі,*
*Над сцежкай,*
*Што дагнаць хачу.*

*Успомню даўнюю пяшчоту*
*І ранішнюю цішыню,*
*На ўсё з птушынага палёту*
*Пачну глядзець упершыню.*

*Душу мне горкі смутак кроіў.*
*Блукаў*
*Ды злітаваўся шлях —*
*Я ўрэшце ў краі светлых мрояў.*
*Цяпер я вольны, быццам птах.*

*У красках луг,*
*Смяецца лісце,*
*Пагляд губляецца ў святле.*
*Усё тут, як было калісьці.*
*Здаецца, як было,*
*Але*

*Мне ўжо чагосьці не хапае,*
*Мне ўжо чагосьці не стае.*
*Не бачыць сноў журба сляпая,*
*Пакінуць не магу яе.*

*Ад шчасця п'яны, цверазею*
*І разумею пакрысе —*
*Маю дарослую надзею*
*Ніхто ў маленства не ўнясе.*

*Спакоем зробіцца трывога,*
*Сустрэне вырай весні сад.*
*Назад вяртаецца дарога.*
*Час не вяртаецца назад.*

### Над скутым возерам

*Зябка наўкол ад імглы беларукай,*
*Возеру соннаму лёду шкада.*

— Дык вось у Шагала яны лётаюць на палотнах. Вуха да гэтага прывыкла, а вока не прывыкла й ніколі не прывыкне, — скончыў гаворку Пэн.

Ахвотна распавядае Рэлес пра літаратурнае жыццё з яго рэвалюцыйным пафасам.

Ізі Харык сабраў маладых ударнікаў у літаратуры. Перад гэтым на нейкай гарбарні сказалі напісаць, хто што можа, бо будуць вызначаць па жанрах. І напісалі, й сабраліся. Адзін чытае: "Шумеў лес. Па лесе бегла дарога. Па дарозе ехала фурманка". Значыцца, празаік. Другі чытае: "На суку сядзела варона. Лісіца пытаецца ў вароны..." Байкар. Самы нервовы пачынае ляментаваць: "Рукі мае, ногі мае, вочы мае..." Заключаюць: "Лірык".

Слухаю Рыгора Рэлеса пра ўдарнікаў у літаратуры,а сам прыгадваю, як у сярэдзіне шасцідзесятых гадоў на ўсесаюзнай нарадзе маладых да нас (мы з Міхасём Стральцовым былі па-маладому захмялелыя) падышла карэспандэнтка з ГДР і запыталася, ці ёсць сярод удзельнікаў нарады паэты й празаікі з заводаў. Мы скіравалі яе да Івана Шальманава, бо ён напісаў "Цагельню".

Пра свайго таварыша Хаіма Мальцінскага ўзгадвае паэт і такое. Мальцінскі злавіў ката з чатырма белымі лапкамі ды занёс у кабінет да кіраўніка БелАППа, кажучы, "Вы не БелАППы, во сапраўдны белап".

Гарэзлівы ўспамін у Рэлеса пра Цодзіка Даўгапольскага, якога я застаў і запомніў старым класікам яўрэйскай літаратуры.

Дарэчы, калі я сказаў неяк Рэлесу, што ён яшчэ маладзявіта выглядае, ён мне адказаў: "Цодзік Даўгапольскі ў такіх выпадках удакладняў — пераніцаваны на трэці бок".

І вясёлыя й сумныя гісторыі, здарэнні, прыгоды. Усё гэта можна пачуць ад Рыгора Рэлеса, рупнага ахавальніка агменю яўрэйскага.

І калі я даволі-такі не мякка запытаўся ў Рыгора Рэлеса, чаму ён не едзе ў зямлю абяцаную, адказаў мне яўрэйскі паэт прыпавесцю свайго старога знаёмага: "Бачыш гэтую шафу, яна стаіць, а пачні рухаць — рухне..."

Выпіўшы чару гаркоты поўную, аж з контурам, Рыгор Рэлес захаваў мудрую ўсмешку і нават насмешку з сябе. Гэта й трымае яго.

Як іскра ў попеле, паэзія Рыгора Рэлеса. Не дае прыску роднае мовы астыць.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

***

*Тужыць над возерам з горкай дакукай*
*Дзікіх гусей чарада.*

*Цераз калючыя стэпы, ўраганы,*
*Цераз крутыя хрыбты, халады,*
*Цераз разгневаныя акіяны*
*Шчыра ляцелі сюды.*

*Родную ўбачыць хацелі заранку*
*На паднябеснай вярсце,*
*Ды ні вады, ні травы,*
*ні прыстанку —*
*Край у нямой белаце.*

*Што іх прынесла,*
*Забытыя дзівы,*
*Цяга да родных мясцінаў,*
*Чарга,*
*Ці легкадумнага ветру парывы,*
*Новы важак ці туга?*

*Возера спіць*
*І яшчэ неахвоча*
*Небу смяецца пад лёдам вада.*
*Мне беспрытульна*
*з маленства гагоча*
*Дзікіх гусей чарада...*

## *Мой багаж*

*І што ўвайшло ў маю душу,*
*І ўсё,*
*Што ў памяці асела,*
*Надзейна ў галаве нашу,*
*І ўсім кажу пра гэта*
*Смела.*
*Яго не ўзважыць,*
*Як не важ,*
*Яго не змерыць,*
*Як не мерай.*
*Паўсюль са мною*
*Мой багаж.*
*Трывога*
*Б'ецца птушкай шэрай...*

**З ідыш пераклаў**
**Рыгор БАРАДУЛІН**

КНІГАРНЯ

# Дарога праз хаос

Напэўна, і табе, шаноўны чытач, не раз даводзілася чуць ад нахабнага бамбізы, які штурхае цябе ля дзвярэй перапоўненага тралейбуса, ці ад гандляркі, якая недаважвае ці недадае рэшты:

— Час такі.

І як быццам усе твае прэтэнзіі — недарэчы. Што ж паробіш, калі "час такі". Таму і падманваюць, штурхаюць, абражаюць, б'юць, здраджваюць, прадаюць і прадаюцца...

Але ж — які гэта такі асаблівы час? Каго ні сустрэнеш — плачуцца на кепскае жыццё, недахоп грошай, называюць сябе жабракамі, няшчаснымі ахвярамі... А на саміх зазвычай ніштаватыя скураныя паліто, футры, дома ў халадзільніках тое-сёе ды ёсць — не адзін сухі хлеб... Ёсць і тэлевізар, і мяккая канапа, хаця б па мінімуму — стандартны набор рэчаў тубыльца-абываццеля... Але ж той, хто з табой размаўляе, шчыра лічыць сябе жабраком.

Дый "прафесійныя" жабракі, кажуць, не такія ўжо бедныя на самай справе, працуюць у строга зладжанай сістэме, пад рэкецірскім "дахам" і зарабляюць болей за нас.

Да таго ж, здараліся, і не раз, у гісторыі нашага народа сапраўды цяжкія часы, калі людзі зведвалі сапраўдны голад — а не толькі на апельсіны і сухую каўбасу... Калі сапраўды не было чаго надзець — а не толькі імпартовага футра; калі само жыццё каштавала меней шэлега, і ад твае хаты ў любы дзень маглі застацца галавешкі... Але ў тыя час чамусьці асабліва шанавалася міласэрнасць, літасць адно да аднаго — няхай рэдкая, і ніколі не ўхваляўся падман і акрутнасць (жорсткасць). Самыя страшныя войны людзі перажывалі супольна, дапамагалі адзін аднаму, чым маглі. Зразумела, і тады хапала "звярыных" адносін. Але, па меншай меры, яны не апраўдваліся і не ўзводзіліся ў закон.

Што ж адбываецца з намі цяпер? Жабрацтва — не матэрыяльнае, а духоўнае? Хто зрабіў нас такімі? Як пераадолець нам свой час, выйсці з яго?

У сучаснай беларускай літаратуры ўтварылася, можна сказаць, цэлая плынь твораў, "заклапочаных" жудасцямі постсавецкага грамадства. Зазвычай аўтары проста канстатуюць абуральныя факты: паўсюль забіваюць... Рабуюць... Здзекуюцца... Хапае такіх фактаў і ў новай кнізе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Георгія Марчука. Але пісьменнік паспрабаваў не толькі назваць факты, але і скласці з іх адну "карціну хваробы", і зразумець, як ад яе вылечыцца. Дыягназ стану сучаснага грамадства вынесены ўжо ў назву кнігі — "Хаос".

Аднак пісьменнік разумее хаос не як пэўны выніковы стан, тое, што надоўга, з чым трэба прымірацца, да чаго належыць прывыкаць. Хаос — гэта і тое, з чаго пачынаецца стварэнне свету, кропка адліку новага часу. Нездарма ў кнізе практычна ў кожным апавяданні ёсць тыя, з каго пачнецца новы час, носьбіты новай — ці старой, як свет? — гуманістычнай ідэалогіі, людзі, якія па самой прыродзе сваёй не могуць прыстасавацца да свету хаосу. Іх лічаць дзівакамі, не разумеюць, стараюцца прынізіць да агульнага бруду, не разумеючы, што такімі дзівакамі ратуецца свет. Такія — дзяўчынка Валя з апавядання "Крыніца", матушка Таццяна з аднайменнага апавядання, Іван Чэх з апавядання "Слабое сэрца" і многія іншыя, чые сэрцы не ачарсцвелі, баляць за кожную жывую істоту, за кожную несправядлівасць у свеце. Некаторыя з гэтых людзей гінуць, але страшней за смерць — здрадзіць сабе. Усе героі "Хаосу" выпрабоўваюцца на духоўную трываласць, і самым жорсткім чынам. Гераіня апавядання "Памерці ў Парыжы", выкладчыца замежных моў Варвара Антонаўна, крышталёвай душы чалавек, не вытрымала выпрабавання галечай і безнадзейнай шэрасцю побытавага жыцця, паступілася сабою — не зусім, а ледзь-ледзь. Пайшла нават не на грэх — на згоду з магчымасцю будучага грэху... І ў жаданым Парыжы, у час здзяйснення даўняй мары — смерць. Здавалася б, выпадковая: так, хворае сэрца... Але ўся структура апавядання, уся логіка хаосу сведчаць: смерць гераіні заканамерная. Смерць — выкупленне згоды на дэструктуралізацыю ўласнае асобы. Калі б не прыйшла раптоўная фізічная смерць — наступствам была б смерць духоўная, — паступовая, няўмольная, ганебная.

Чалавек Хаосу — гэта неабавязкова чалавек цемры. Гэта проста чалавек, які згубіў арыенціры ў жыцці, не ведае, куды яму ісці, не бачыць — за кім; забыўся, ці не зразумеў — навошта. Часовымі, згубнымі арыенцірамі, як балотныя агеньчыкі над дрыгвою, служаць яму ўласныя жаданні і прыхамаці. І чалавек кідаецца туды, куды яны яго вабяць, змятае ўсё і ўсіх на сваім шляху, дасягае любой цаной важкай, матэрыяльнай мэты — новай пасады, кватэры, жмута "баксаў", некалькіх "дармовых" дублёнак, — а пасля дзівіцца адсутнасці шчасця... Дзівіцца, адчаго вакол — пустэча, і пустэча ўнутры... Не разумеючы, што гэта дрыгва Хаосу паглынула яго, і няма яму шляху ў новы — будучы — свет... Так адбываецца з героямі апавядання "Доўгачаканы набытак", тыповымі "простымі" людзьмі, ні асабліва добрымі, ні асабліва благімі. Звычайная сям'я, якая перажывае звычайны жыццёвы эпізод — набыццё "сценкі", шараговай мэблі. Але працэс набыцця ператвараецца ў глабальную падзею, пытанне жыцця і смерці. У "падзеі" прымаюць удзел усе пакаленні сям'і, збіраюць апошнія грошы, робяць пазыкі, такім чынам закладваючы і сваю будучыню. Святкаванне здзейсненай пакупкі прыроўнена да святкавання нараджэння дзіцяці. Запаветная мара кожнага сямейніка здзейснена, кожны на нейкі момант у вырабе мясцовай мэблевай фабрыкі займеў сэнс жыцця і спадзеў на рэзкія перамены да лепшага... Але што далей? Расставіць бутэлечкі, як у інтэлігентаў.. Купіць да "сценкі" новае бра... І — далей, у дым шэрага абывацельскага жыцця, без любові, без павагі адзін да аднаго... Нездарма Сартр казаў, што пекла — гэта нашы бліжнія; пекла — гэта мы адзін для аднаго...

Дарэчы, найперш выпрабаванні выпадаюць на долю інтэлігенцыі. Той інтэлігенцыі, народжанай савецкім часам, што з'яўлялася адначасова і носьбітам сацыялістычнай ідэалогіі, і плоццю ад плоці той інтэлектуальнай эліты ўсіх часоў і народаў, што знаходзілася па-за часовымі ідэалагічнымі інстытутамі, фармулявала і захоўвала маральныя прынцыпы, якімі мусіла кіравацца ўсё грамадства. Вось толькі прыналежнасць да гэтай, другой катэгорыі ў кожнага савецкага інтэлігента вызначалася ў розных працэнтавых адносінах. Аж да нуля. Але безумоўна ў часы перамен інтэлігенцыя заўсёды падпадала пад удар першай. І сёння яна першай адчула на сабе ўздзеянне хаосу — незапатрабаванасць інтэлекту, высокага мастацтва, міззэрныя зарплаты, скарачэнне штатаў і цэлых навуковых установ, агульная дэвальвацыя духоўных каштоўнасцяў. Плюс уласнае няўменне "рабіць грошы", невалоданне "зямнымі", рамесніцкімі прафесіямі, якія могуць пракарміць хаця б па мінімуму... Многія героі "Хаосу" адносяцца менавіта да гэтай катэгорыі людзей. Дзяніс Бранцэвіч, інжынер-камп'ютэршчык з апавядання "Кома", выдатны спецыяліст, якога самадур-дырэктар з "новых беларусаў" пераводзіць на палову стаўкі, аддаючы такім чынам ва ўладу галечы, знаходзіць суцяшэнне толькі ў хрысціянскай любові, — да свету, да людзей, да сваіх бліжніх, адпрэчыўшы нянавісць, зноў паверыўшы ў тое, што не ўсе "азвярэлі". Правінцыйны артыст Іван Сільвестравіч уступае ў канфлікт з маладым заезджым рэжысёрам. Граючы на прафесійнай годнасці старога артыста, рэжысёр змушае яго да непадсільных выпрабаванняў, і ў выніку стары артыст памірае. Але з ім памірае і тэатр.

Інтэлігенцыя, якая мімікрыруе, прыстасоўваецца да Хаосу, страшней, чым просты абывацель. Гэта — медсястра, якая крадзе дэфіцытныя лекі, а хворым робіць уколы дыстыляванай вадой; гэта — святар, які патрабуе за адпяванне нябожчыка дваццаць долараў, не зважаючы на матэрыяльнае становішча сваякоў памерлага. Гэта — вучоны, які ператварае навуку ў бізнес, пісьменнік, які ў такі ж бізнес спрабуе ператварыць сваю творчасць — калі яна яшчэ можа так называцца... Інтэлігент, пазбаўлены духоўнасці, можа, у адрозненне ад "простага" мешчука, прыгожа абгрунтаваць сваю жыццёвую пазіцыю, можа нават сфармуляваць законы Хаосу, можа быць прыкладам для тых, хто рангам ніжэй...

Але страшней за ўсё — калі Хаос атрымлівае ўладу над дзецьмі, якія ёсць увасобленая будучыня. Героі апавядання "Тройца", вясковыя хлапчыкі, едуць на гарадскі базар, каб здзейсніць свой невялікі бізнес — прадаць аер, традыцыйны атрыбут свята Тройцы, і купіць сабе модныя красоўкі... Але гэткія ж падлеткі, толькі больш "крутыя", на матацыклах і ўжо ў красоўках, адбіраюць у юных гандляроў увесь прыбытак... І вось у небарак узнікае сугучная Хаосу злосць на ўвесь свет і гатоўнасць гэтак жа пакрыўдзіць слабейшага... Дзеці з апавядання "Матушка Таццяна" забіваюць кацяня, а бацька не дае нікому нават асудзіць іхні ўчынак; дзеці з апавядання "Слабое сэрца" пры ўдзеле выхавацелькі заганяюць да смерці вавёрачку...

Не разгубіцца, не заблукаць у часе Хаосу... Як гэта цяжка... І якой недасканалай, сумніўнай на матэрыялістычнае вока выглядае ўзнагарода — добрая памяць сярод людзей.. Шчасце — недзе там, на небе... Цяжка адрозніваць сапраўдныя каштоўнасці ад падманных. Герой апавядання "Мітусь "Сіртакі" ўсё жыццё імкнуўся вылучыцца, усіх "пераплюнуць". Але ведаў толькі адзін шлях, каб гэтага дасягнуць — праз набыццё шыкоўных рэчаў: баяна, на якім так і не навучыўся добра йграць, "Доджа", на якім нельга ездзіць па нашых дарогах... Дзяўчына Аня мае талент пячы цудоўныя булачкі, ёй па душы гэтая справа, і людзі яе паважаюць за ўмельства... Але гэта "непрэстыжная" прафесія, і маці сілком "упіхвае" дачку ў інстытут, на абсалютна нецікавую той спецыяльнасць... У выніку Аня займае "належны" сацыяльны статус. Але ніколі ўжо не дасягне яна той рэалізацыі сваёй асобы, як было, калі пякла незвычайна смачныя булачкі, якія дасюль успамінаюць на яе радзіме.

Хаос пануе паўсюль. Але арыенціры выйсця з яго — у самім чалавеку. Ніхто не нараджаецца на свет падданцам Хаосу. У час нараджэння дзіцяці, паводле апавядання "Божы дар", і цяпер анёлы святла і дабрадатнасці нясуць па свеце ўрачыстую вестку, і ажываюць душы нябёсныя, святыя і зямныя... Усё роўна грае невідомы музыка-вецер, слухаюць яго ці не. Усё роўна ўсё вакол — цікава. І добра разумець нават тое, што пасля цябе — жыццё не скончыцца, а будзе працягваць сваё нетаропкую хаду. І Хаос калі-небудзь будзе пройдзены...

"Літаратура, мастацтва, вера ва Усявышняга дапамагаюць нам арыентавацца на цярністым шляху, каб не згубіцца ў сусвеце, не забіць у сабе жывую душу, пакінуць дзецям і ўнукам добрае імя і добрую памяць па сабе. Не панікуй, чалавеча, з-за ўласнага бяссілля, адчай — таксама грэх; ты патрэбны нават Хаосу, яму не абысціся без цябе, бо ён таксама нічога не знішчае, а толькі пераводзіць у іншы стан".

Гэтымі словамі Георгій Марчук заканчвае сваю прадмову да зборніка "Хаос".

Гэтымі словамі дарэчы будзе завершыць і гэтую рэцэнзію.

**Людміла ЧАСЛАЎСКАЯ**

# Красавік быў азнаменаваны...

Відаць, не ўсё яшчэ дрэнна ў нашым жыцці, калі пісьменнікі, таксама як і настаўнікі, лічаць выхаванне падрастаючага пакалення не толькі дзяржаўнай справай, але і прыярытэтнай і па-сапраўднаму, шчыра і аддана дапамагаюць нам у гэтай нялёгкай справе.

Красавік у Сёмкаўскай санаторнай школе-інтэрнаце быў азнаменаваны цікавай падзеяй. На сустрэчу з вучнямі да нас прыязджалі пісьменнікі Раіса Баравікова, Міхась Пазнякоў і Яўген Хвалей. Яны расказалі вучням, над чым працуюць сёння, прачыталі вершы. У сваю чаргу вучні падрыхтавалі да сустрэчы з гасцямі цэлую праграму з народных песень і танцаў, а таксама правялі конкурс чытальнікаў, у склад журы якога ўвайшлі госці і загадчыца па вучэбнай рабоце школы Людміла Ціпчанка. Удзельнікаў было хоць адбаўляй. Госці вырашылі адзначыць усіх і ўручылі ім кнігі, якія толькі што выйшлі ў выдавецтве "Юнацтва". Сярод іх былі дзве, прэзентацыя якіх літаральна адбылася ў школе. "Каця на планеце Радапедаў" Я. Хвалея і "Дзве аповесці пра міжпланетнага пажарніка..." Р. Баравіковай. Вучні 5 класа прачыталі гэтыя кнігі, намалявалі ілюстрацыі, вывучылі вершы, загадкі, лічылкі, небыліцы, калыханкі, падрыхтавалі інсцэніроўку паводле кнігі Р. Баравіковай. Расчуленая Раіса Андрэеўна падарыла кожнаму ўдзельніку міні-спектакля сваю кніжку з аўтографам.

Добрую справу робяць пісьменнікі, наведваючы дзіцячыя калектывы. Зберагчы душу дзіцяці, абудзіць фантазію — гэта задача не толькі настаўнікаў, але і ўсіх творчых людзей, бо свет дзіцяці падуладны толькі дабрыні і таленту. Кнігі павінны быць спадарожнікамі дзіцячай душы, дапамагаць рабіць выбар паміж дабром і злом, узбагачаць агульную культуру дзяцей, якая з'яўляецца ў выніку паказчыкам духоўнасці нацыі. Чым часцей нашы дзеці будуць сустракаць на сваім шляху людзей, якія дбаюць пра адраджэнне нацыі, яе духоўнай спадчыны, тым лепшымі будуць адносіны ў грамадстве.

**Валянціна ГРЫНЁВА,**
**настаўніца**

*"Мастацтва ствараюць інтуіцыяй, але інтуіцыю вызваляе толькі сапраўднае веданне. Хімеры, псеўдаведы і ідэалагічная лухта, якой прасякнуты свет, вядуць да выпакутаваных і вартых жалю канструкцый", — так лічыць пісьменнік. І яшчэ — рашуча выступае супраць ярлыкоў: "Ацэншчыкі ў літаратуры — хто такія? Прыглядзьцеся да іх, гэта часцей за ўсё члены адной банды, якая паразітуе на народнай культуры. Яны гучней за ўсіх крычаць пра "графаманаў", як той злодзей, які крычаў "Трымай злодзея!.."*

# Эдуард СКОБЕЛЕЎ:
# "Для рускіх пісьменнікаў я беларус, для беларусаў — рускі..."

**— Але ж, пагадзіцеся, не ўсе таленавітыя.**

— Не пагаджаюся. За шмат гадоў працы ў літаратуры я пераканаўся, што кожны генетычна здаровы чалавек таленавіты. Калі без нахабства і блату ён пачынае рабіць самастойныя крокі ў літаратуры, яму трэба памагчы.

Сапраўдная літаратура робіцца нямногімі, гэта так. Але нават талент, які не развіваецца, "серадняк", як яго называюць, карысны для літаратуры, пакуль не скарыстоўвае яе ў асабістых мэтах, пакуль служыць ідэалам высокай народнай культуры.

**— Як вы ацэньваеце сваю творчасць?**

— Станоўча, таму што інакш я не прысвяціў бы свае сілы літаратуры. Аб'ектыўную ацэнку дасць чытач. Але гэта адбудзецца пазней. Пакуль для рускіх пісьменнікаў я беларус, а для многіх беларускіх пісьменнікаў — рускі. Але я не скарджуся на недахоп увагі. У мяне ёсць свой чытач, і я вельмі шаную яго адносіны да маіх кніг.

Адразу пасля выхаду аповесці "Крысціна" (гісторыя калгасніцы-даяркі), а атрымаў некалькі пісем з вёскі, дзе мяне хвалілі за тонкае веданне душы сельскай працаўніцы. Што можа быць вышэй за гэтую ўхвалу?

**— Як вы ставіцеся да беларускай мовы?**

— Гэта мова маёй зямлі, мова маёй маці і майго бацькі. У той перыяд, калі ў чалавеку ідзе станаўленне мыслення, я жыў у Расіі (мой бацька быў ваенным будаўнікОм, у сувязі з чым сям'я пастаянна пераязджала з месца на месца), у Арэнбуржжы.

Але руская мова ніколі не перашкаджае маёй беларускасці. Я ахвотна перакладаю беларускую прозу і асабліва паэзію.

Некаторыя, на мой погляд, знарок ствараюць моўныя праблемы. Трэба ўлічваць рэальную гісторыю народа. Калі людзі будуць паміраць ад голаду ці ад недахопу асабістай свабоды, для іх не будзе мець значэння мова тых, хто праводзіць іх у апошні шлях.

Мова Пушкіна, Дастаеўскага і Талстога стварае асаблівую прастору і глыбіню для развіцця беларускай літаратуры. Там, дзе губляюцца крытэрыі параўнання, адбываецца выраджэнне. Гэта зафіксавана навуковымі метадамі.

Рускую мову нельга лічыць чужой на Беларусі, гэта родная нам мова братняга народа. Усе мы разам стварылі асаблівы варыянт рускай мовы, якая ўзбагачана выразнымі беларусізмамі.

Гадоў дзесяць таму, між іншым, калі не стаяла так востра пытанне аб мове, выдавалася значна больш кніг на беларускай мове, а галоўнае — перакладалася невымерна больш беларускіх твораў на рускую і на іншыя сусветныя мовы: англійскую, французскую, іспанскую, кітайскую.

Цяпер у краінах СНД становішча з выданнем нацыянальнай літаратуры проста катастрафічнае. Беларусь на іх фоне — квітнеючы аазіс нацыянальнай культуры. Але ёсць небяспека, што дэмагогі могуць вытаптаць і гэты аазіс. Лепшае — заўсёды вораг добрага. Колькі разоў пераконваліся ў гэтым народы!

Да мінулага вяртання няма. Цяпер узаемаадносіны ў нашай сацыяльнай дзяржаве будуюцца дакладна на прынцыпах узаемнасці. Калі пісьменнікі штосьці хочуць атрымаць ад дзяржавы, яны абавязаны даць гэтай дзяржаве. Народныя грошы, здаецца, мы ўжо навучыліся лічыць і адвыклі ад інфантыльных установак спажывецтва: дай! зрабі! прадастаў!

Цяперашняя дзяржава павінна забяспечыць выкананне канстытуцыі. Усё астатняе мы павінны зрабіць самі. Мастацтва не можа арыентавацца на попыт і прапанову. Але і не лічыцца з попытам яна не можа.

**— Адчуваецца, што вы дзяржаўнік. Што гэта азначае для пісьменніка? Ці азначае гэта што-небудзь?**

— Усе свае сілы я аддаў дзяржаве. Гэта абавязак кожнага. Нацыянальная дзяржава ў сучасным свеце — апошняя апора свабоды. Хто не сляпы, той бачыць, што палітыка глабалізму, якую ажыццяўляюць цяперашнія архітэктары свету, вядзе перш за ўсё да размыву і знішчэння нацыянальных дзяржаў. Што ўжо казаць пра невялікія краіны, вялікія дзяржавы не могуць зберагчы свой суверэнітэт.

У гэтым плане нам, беларусам, вельмі пашанцавала, што на чале нацыі апынуўся такі адказны і рашучы абаронца свабоды і роўнасці, як А. Р. Лукашэнка. Нават на Захадзе цяпер усё часцей прызнаюць, што самастойны беларускі курс значна больш плённы за тую лінію, якая навязвалася "постсавецкім рэжымам" ад імя Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка. Вядома, праблем маса, але рашэнні ёсць і рашэнні ляжаць у плоскасці захавання беларускай суверэннасці як асноватворчай каштоўнасці нашага народа.

**— Што вы можаце сказаць пра асноўную праблему маючага адбыцца з'езда пісьменнікаў? Кажуць, расколу не пазбегнуць.**

— Раскол, сапраўды, ужо існуе. Частка пісьменнікаў рашуча падтрымлівае законна абранага прэзідэнта краіны і яго палітыку. Другая частка, відаць, жадае ўстанаўлення другіх парадкаў, марачы аб беларускіх Гайдарах і Чубайсах. Калі яны прыйдуць, альтэрнатывы ім ужо не будзе — гэта паказаў кастрычнік 1917 года і кастрычнік 1993 года.



Галоўнае пытанне з'езда, на мой погляд, — гэта пытанне аб аздараўленні пісьменніцкай арганізацыі, аб адносінах большасці пісьменнікаў да ўсенароднага выбару. З кім, у рэшце рэшт, "гэтая творчая інтэлігенцыя", пра якую кажуць, што яна пастаянна прадавала інтарэсы нацыі, пастаянна інтрыгуе дзеля сваіх шкурных інтарэсаў? Вядома, што гаворка ідзе пра невялікую, але добра фінансуемую групу гарлапанаў, якія збіваюць з толку недасведчаных.

Я лічу вялікай трагедыяй, што тон у свабодным друку дагэтуль задаюць людзі, якія наўрад ці выказваюць нацыянальныя інтарэсы народа.

Другое пытанне — ужо падпарадкаванае: пісьменнікі абавязаны падмацаваць найвысокую духоўнасць нашага народа. На нейкі час мы абавязкова станем аплотам сусветнай духоўнасці, таму што захоўваем сваё стаўленне да прыроды і да ісціны.

**— У вас шмат зайздроснікаў. Яны называюць вас антысемітам.**

— Гэта старая хохма замшэлых нацыяналістаў. У наш час ніводны паборнік праўды не можа пазбегнуць гэтага ярлыка праціўнікаў славянскага адраджэння. Скажу вам, што я прынцыповы прыхільнік роўнасці і дружбы народаў. Гэта аснова маёй асабістай культуры. Але я катэгарычны праціўнік усялякай этнічнай агрэсіі, тым больш з дапамогай фінансавага ціску, кадравага і ідэалагічнага засілля.

Дарэчы, усе гэтыя ярлыкі і невыкараненыя дагэтуль данасіцельства, ананімкі, калектыўныя дэмаршы — гэта перш за ўсё ад этнічнай агрэсіі, якой была прасякнута ранейшая савецкая сістэма, што прыкрывалася інтэрнацыяналізмам.

Беларуская дзяржава, у маім разуменні, — гэта шматнацыянальная унітарная дзяржава, дзе ніводная этнічная група не павінна карыстацца правамі, якія пераўзыходзяць правы беларусаў. І, вядома, іх адказнасць не павінна быць ніжэйшай. Роўнасць — пры разнастайнасці, але не вавілон, не уніфікацыя пры фактычным пананаванні "выбраных".

**— Мне хацелася б, каб вы хоць бы ў агульных рысах расказалі пра свой светапогляд.**

— У агульных рысах — непасільная задача. Светапогляд дакладна адпавядае нашаму духоўнаму свету. Калі гэта космас, як выказаць светапогляд?

У цэлым хачу сказаць, што я заўсёды спавядаў народную праўду і заўсёды бачыў у прыродзе аплот дасканаласці. Так што ніякіх "пераваротаў свядомасці" я не адчуваў, думаю, добра ўяўляючы прычыны крызісу, агоніі і распаду вялікага Савецкага Саюза. У мяне і раман ёсць на гэтую тэму, пакуль што не апублікаваны. За некалькі гадоў да развалу я паказаў усё тое, што адбываецца сёння. Ад гэтага рукапісу шарахаліся ўчарашнія босы. Таму іх і не відаць.

Уся прырода боская і цудоўная. Мы не ведаем пра яе яшчэ самага галоўнага. Да гэтага галоўнага адносіцца дзівосная залежнасць генетычнага механізму чалавека ад яго маральных установак. Як толькі чалавек задумвае зжэрці чужое, прыпісваючы сабе абранасць, ён выраджаецца.

Велізарная праблема цяперашняга перыяду гісторыі — нашэсце дэгенератаў, тыпаў, які не жадаюць працаваць на стварэнне, прылічаюць сябе да абраных. Я бачу, вы ўсміхаецеся і не верыце. Але ўсё гэта відавочна і даўно прадказана. Між іншым Джордж Оруэл, больш вядомы ўсім як ненавіснік СССР, што, прынамсі, не адпавядае праўдзе, прадбачыў, што стварэнне сусветнай дзяржавы непазбежна павядзе да захопу ўлады шызафрэнікамі. Гэты працэс і адбываецца цяпер: стварэнне сусветнай інтэрнацыянальнай дзяржавы (як ні смешна, па тыпу СССР) на фоне каласальнага, разрослага Левіафана сусветнай прапаганды пры катастрафічным пагаршэнні прыроднага асяроддзя.

Як псіхолаг, я беспамылкова вызначаю гэтых шызафрэнікаў-дысідэнтаў, хай будзе гэта ў Мінску, Маскве альбо Лондане.

**— Ну і карцінку вы намалявалі! Нешта жудаснае.**

— Не трэба перабольшваць. Усё, што разбураецца рукамі чалавека, рукамі чалавека і ўзнаўляецца. Універсум не толькі бясконцы, але і незнішчальны. Пастаянная і вечная тэндэнцыя яго развіцця — да дасканаласці, сутнасці якой мы яшчэ не асілілі. Калі свет цудоўны ў той частцы, якую мы ведаем, ён павінен быць не менш цудоўны і ў той частцы, якой мы не ведаем.

**Правяла інтэрв'ю**
**Раіса МШАР**

ПОВЯЗЬ

# Таленавітым — увагу і падтрымку

І маладыя літаратары, і ўжо сталыя, маючыя па некалькі зборнікаў аўтары заўсёды з асаблівай цеплынёй і задавальненнем успамінаюць свае першыя публікацыі ў перыядычным друку, а былі яны, як правіла, у раённых газетах. Прыемна і зараз, гартаючы падшыўкі "раёнак", бачыць на іх старонках вершы, апавяданні, замалёўкі маладых.

Рэдакцыя магілёўскай раённай газеты "Прыдняпроўская ніва", напрыклад, у апошні час прыкметна актывізавала дзейнасць мясцовага літаратурнага аб'яднання "Узлёт". У "раёнцы" побач з творамі ўжо даволі сталых, прызнаных крытыкамі аўтараў (В. Карпечанка, У. Дуктаў, С. Украінка) змяшчаюцца вершы Алены Алешчанкавай, Мікалая Яцкова, Аляксандра Трыгалёва, Людмілы Корсак, Анатоля Ермакова, Наталлі Ражковай, Алены Барсуковай і іншых. Своеасаблівы, як кажуць, сённяшні светапогляд у герояў апавяданняў Наталлі Кулаковай і Уладзіміра Цішурова.

Сістэматычна, звычайна адзін раз на месяц выходзіць тэматычная літаратурная старонка "Натхненне" ў бялыніцкай раённай газеце "Зара над Друццю". Свае вершы тут пастаянна змяшчаў былы вучань гарадской СШ N 1 Андрэй Кунцэвіч. Ён падтрымлівае сувязь з газетай і цяпер, ужо як студэнт факультэта журналістыкі БДУ.

Амаль пастаянна "Натхненне" змяшчае вершы вучняў Цяхцінскай сярэдняй школы. Адчуваецца, што дапамогу пачаткоўцам аказваюць школьныя настаўнікі-філолагі. Своеасаблівым лірызмам вызначаюцца вершы шасцікласніцы Жэні Пятроўскай і выпускніцы СШ N 2 г. п. Бялынічы Святланы Войлахавай.

У Горацкім гісторыка-этнаграфічным музеі творча і плённа працуе мастацкае аб'яднанне "Роднае слова". Супрацоўніца музея Марыя Студнёва заўсёды цікава праводзіць пасяджэнні творчага аб'яднання і тэматычныя вечарыны.

А вось літаратурнае аб'яднанне "Узлёт" пры Горацкай раённай газеце ў апошні час не падае ніякіх прыкмет узлёту. І хоць тэматычныя літаратурныя старонкі ў газеце адсутнічаюць, асобныя вершы маладых аўтараў усё ж радуюць чытачоў сваёй цеплынёй і пяшчотай, шчырасцю пачуццяў. Гэта датычыцца вершаў Марыны Трафіменкі, Наталлі Пахамовіч, Настассі Скляр. А ў горацкай акадэмічнай друкарні нядаўна выйшаў у свет зборнік маладой паэтэсы Тацціяны Гісер. Так, сёння акурат у мясцовай друкарні, а не ў вядомым сталічным выдавецтве часцей выходзяць кнігі. Гэта, безумоўна, заслугоўвае пахвалы.

Варта добрага слова і літаб'яднанне "Крыніца" Чэрыкаўскага раёна, што існуе пры мясцовай рэдакцыі. На пасяджэннях аб'яднання абмяркоўваюцца творы пачынаючых паэтаў і празаікаў, ім даюцца неабходныя кансультацыі і парады. Лепшыя творы потым прапануюцца рэдакцыі для апублікавання. Такім вось чынам у літаратурнай старонцы газеты з'явіліся вершы вучаніцы Глінскай сярэдняй школы Наталлі Чарнуцкай і Алесі Ткачовай з Чэрыкаўскай СШ N 1. Свае вершы і апавяданні пастаянна змяшчае і малады супрацоўнік Чэрыкаўскага аддзела культуры райвыканкама Станіслаў Хахлоў.

Можна адзначыць плённую і мэтанакіраваную работу з маладымі аўтарамі ў рэдакцыях чавускай "Іскры", бабруйскай "Трыбуны працы", краснапольскай "Голас Краснапольшчыны", мсціслаўскай "Святло Кастрычніка".

Як я адзначаў, на старонках многіх раённых газет Магілёўшчыны даволі часта выступаюць школьнікі. У звычайных інфармацыях, замалёўках вучні расказваюць аб мерапрыемствах, што праходзяць у школах, вёсках, калгасах, гарадах. І гэта добра, бо сённяшні юнкор заўтра можа стаць прафесійным карэспандэнтам. Багацце газеты не толькі ў яе тыражы, перыядычнасці, колькасці старонак, а і ў аўтарскім активе.

У многіх жа "раёнках" вобласці, на жаль, не ствараюцца неабходныя ўмовы для росту, станаўлення мясцовых маладых літаратараў. Менавіта на паляпшэнне ўзаемаадносін паміж рэдакцыямі і маладымі аўтарамі і нацэлена нядаўняе рашэнне калегіі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.

**П. КАМКОЎ,**
**старшы выкладчык Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова**

Карацей — *месцамі* раю пачытаць спадара Туровіча. Палова грошай, заплачаных ім за выданне зборніка, патрачана не марна...

Выдала дзве "кніжкі паэзіі" і шаноўнае выдавецтва "Беларускі кнігазбор". Аўтары — Леанід Яўменаў ды Алесь Пісарык. Салідныя *на першы погляд* кніжкі. Напісалі іх людзі ў літаратуры *не новыя*. Выдалі — і добра. Бо побач з імі выдадзены і Ластоўскі, і Жылка, *дзякуючы, спадзяюся*, матэрыяльнай падтрымцы тых жа Яўменава і Пісарыка. А ўжо якія кніжкі яму *займець*, вырашыць сам, удзячны "Беларускаму кнігазбору", *чытач*...

Славамір Адамовіч — паэт, можна сказаць, знакаміты, з вядомай ці не кожнаму адукаванаму беларусу біяграфіяй. Кніжачка яго "вершаў з-за кратаў" "Сьпіраль Бруна" пабачыла свет у бібліятэчцы часопіса "Фрагменты". *"Выйшла"* яна да людзей амаль адначасна з самім аўтарам, які да гэтага сядзеў пад следствам у турэмных засценках. А *"там"* вядома:

***Жыць хочацца, бадай што як ніколі,***
***Тым больш любіць, тым больш калі вясна,***
***Тым больш, калі ў цябе дачка на волі,***
***Тым больш, калі яе ў цябе няма...***

Аднак не толькі *для яго*, але і *для нас* найважней гэтае:

***І раз ужо так прыйшлося —***
***давай ня плакаць, ня ныць,***
***давай рабіць, каб збылося***
***усё, што павінна быць.***

Усе рыфмы, як вы заўважылі, — *дзеяслоўныя*, а значыць, — *творчыя*. Нядаўна паэт падаў заяву ў прыёмную камісію СП Беларусі. Вершы, аказваецца, можна пісаць *усюды*, як і быць *зняволеным*, нават будучы сябрам Таварыства *Вольных* Літаратараў. Цяпер Славамір хоча займець *сяброў* у *паднявольным* саюзе... Што ж, была б *Паэзія*, а самому паэту *месца* заўжды дзенебудзь ды знойдзецца.

Іміджь змагара і пакутніка створаны. Засталося адно — ствараць Паэзію. І талент для гэтага ў Славаміра Адамовіча ёсць. Несумненны.

А сябры Алеся Каско зрабілі своеасаблівы падарунак да дня яго нараджэння — яны падаравалі яму кніжку яго ж вершаў ("45", Брэст, рэдакцыя газеты "Шлях", 1996 г.).

Каско — паэт больш чым *сур'ёзны*. Таго вымагаюць і ягоны ўзрост, і куляшоўскае лаўрэацтва, і пасада сакратара абласнога аддзялення СП Беларусі, ну і *лёс*, вядома, і *талент*.

Часам, праўда, сам Каско *перашкаджае сабе быць* Паэтам, бо залішне выразна *намагаецца стаць* грамадзянінам.

Не-не, ды і задасць *наіўнае* пытанне прэзідэнту:

***І тады, як смерць прыме паэт,***
***Не пакаецеся, прэзідэнт?***
***— Нет.***

Ды адказ на гэтае пытанне, даражэнькі Алесь, усе даўно ведаюць. А зрэшты — калі б і — "так", пакаяўся — усё адно было б позна. Таму — жывi і твары! Бо "на ўсе пытанні" адказваў, як ты ведаеш, адзін толькі Ленін... І ці не ёсць пэўным адказам на самыя балючыя з іх твой *выдатны* трыпціх "Без адказу"?!

...Папера казённая, але *чытача* трэба *паважаць*. Закруглюся на *галоўным*.

Усе, вышэйзгаданыя, *аўтары* (ці іх *спонсары*) *плацілі выдаўцам*. А былі ж часы! Яшчэ нейкіх 170 гадоў таму рускі паэт Аляксандр Сяргеевіч Пушкін мог пісаць так: "Не продается вдохновенье, *но можно рукопись продать*".

Бываюць, праўда, выключэнні і ў наш час. Вось *апальны* і ўсім добра вядомы Уладзімер Арлоў не знайшоў для свайго рукапісу ні спонсараў, ні выдаўцоў. Не той яшчэ спонсар і выдавец! І я яшчэ раз пераканаўся, што, як ні дзіўна, менавіта ў *дзяржаўным выдавецтве* працуюць *мудрыя людзі*. Нечакана для Арлова *яны* яго выдалі. *Купілі* рукапіс! Я маю права так пісаць, бо *аўтару*, Арлову У. А., так ці інакш, такі ці сякі, сення ці паслязаўтра *ганарар* за кніжку ўсё ж *заплацяць*.

І я вам скажу — *ёсць за што!* Сакавітая нацыянальная мова, інтрыгуючыя сюжэты, адмысловы стыль! Кніжка называецца "Рэквіем для бензапілы" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1998 г.). Вось у гэтай кніжці ўжо ёсць не толькі *аўтар*, але і *творца*. А творчыя тэксты *дарма не даюцца*, і, зважце, *не аддаюцца задарма*. Як і ва ўсім цывілізаваным свеце.

За *твор* трэба *плаціць*. Выдаўцам — творцу! А не наадварот. Пакуль гэта атрымліваецца ў нас рэдка і з цяжкасцю. Ці то грошы *дробныя*, ці то выдаўцы, ці то рукапісы... А пакольк апошнія *"не гараць"*, то без кніжак мы ўсё-ткі *жыць не будзем*.

А значыць — *будзем жыць*. І чытаць. Напісанае і створанае... Выдадзенае і нявыдадзенае... І ўсё ж — беражы вочы, чытач! Кажаш: жыццё кароткае, а прачытаць хочацца ўсё...

Што ж — чытай... І — да сустрэчы! Мне — з аўтарамі, табе — з кніжкамі...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

КАНТАКТЫ

# Працяг знаёмства

Субхаш Чаўдхары... Пісаў я пра яго, калі ён упершыню прыехаў на Беларусь. Тады я ўжо ведаў, ад індыйскага паэта Вар'яма Сінгха, што беларуская літаратура на хіндзі выходзіць ва ўласным выдавецтве Субхаша Чаўдхары "Гарыма Шрыпракашан" у Дэлі. І хоць Чаўдхары прыехаў па сваіх, не звязаных з выданнем мастацкай літаратуры справах, на мяне выпала прыемная місія запрасіць яго ў Саюз пісьменнікаў, дзе ён пазнаёміўся з некаторымі літаратарамі. Асаблівае ўражанне зрабіў на яго Максім Танк, які ўдзяльнічаў у гутарцы з госцем. Гэтае знаёмства мела своеасаблівы працяг — выданне неўзабаве ў Дэлі кніг Максіма Танка, твораў іншых беларускіх аўтараў.

У кожны прыезд С. Чаўдхары прывозіць цікавыя і дарагія нам падарункі — творы беларускіх пісьменнікаў, выпушчаныя ў яго выдавецтве. У той першы раз — больш за дзесятак экземпляраў дэлійскага часопіса "Сучасная сусветная літаратура", цалкам прысвечанага беларускай (іх раздаў аўтарам часопіса і ў паасобныя бібліятэкі). У другі прыезд — дваццаць сёмы нумар часопіса "Лагар" за 1997 год з вершамі Янкі Сіпакова, а таксама некаторыя іншыя выданні, звязаныя з культурай Індыі. Сёлета ён падарыў нам паўторнае выданне паэзіі Максіма Танка, падкрэсліўшы, што выданне 1995 года разышлося. Творы Максіма Танка пераклаў на хіндзі Вар'ям Сінгх, перакладчык рускай і беларускай літаратуры, які, дарэчы, з'яўляецца старшынёй рэрыхаўскай Асацыяцыі ў Індыі.

Хачу крыху шырэй сказаць пра Субхаша Чаўдхары, бо пра яго, на маю думку, беларуская грамадскасць павінна ведаць.

Нарадзіўся С. Чаўдхары 30 студзеня 1947 года ў штаце Лахоры (раней называўся Пенджаб Паўночны). Па заканчэнні універсітэта імя Джавахарлала Неру ў Дэлі атрымаў ступень магістра па рускай мове. Ім, першым выпускнікам гэтага універсітэта, уручала дыпломы Індзіра Гандзі. Працаваў у кампаніі "Аэрафлот" у Індыі. Дзякуючы яго арганізацыйнай працы індыйскае аддзяленне авіякампаніі атрымала Залаты медаль ад Савецкага Саюза. У 1982 г. адкрыў сваё самастойнае агенцтва і адначасова выдавецтва. Даходаў ад выдання кніжнай прадукцыі не мае, страты папаўняе за кошт прыбыткаў ад іншых агенцтваў, кампаній. У такім разе я назваў бы яго мецэнатам.



Побач з індыйскай, вялікую ўвагу аддае выпуску рускай і беларускай літаратур. У "Гарыма Шрыпракашан" выйшлі: "Слова аб палку Ігаравым", кнігі А. Пушкіна, М. Лермантава, А. Блока, У. Маякоўскага, згаданыя выданні Максіма Танка, "Анталогія беларускай паэзіі" і інш. Чаўдхары гаворыць: "Выдаю творы рускіх, беларускіх пісьменнікаў і краін СНД з тым, каб дзеці і юнакі Індыі маглі глыбей разумець гэтыя літаратуры".

Яшчэ ў 1988 годзе з мэтай паляпшэння індыйска-савецкага супрацоўніцтва С. Чаўдхары стварыў "Асацыяцыю дзелавога супрацоўніцтва СССР — Індыя". Памятаю, пра гэта пісалі амаль усе тадышнія савецкія газеты. У 1993 годзе арганізаваў на Украіне кампанію са стопрацэнтным індыйскім капіталам "Ганус Украіна". Зноў падумаў я, раз ён мае свой капітал, чаму б не запрасіць яго для ўдзелу ў якой-небудзь нашай свабоднай зоне, скажам, той жа Брэсцкай. Чаўдхары садзейнічаў адкрыццю пасольства Украіны ў Індыі, спрыяў адкрыццю пасольства Беларусі ў сваёй краіне, што, па яго словах, дапаможа вырашаць многія культурныя, навуковыя, адукацыйныя пытанні.

У 1994 годзе падрыхтаваў медыцынскую выстаўку Індыі ў Мінску. Яго мара — адкрыць у Мінску інстытут ёгі і гімалайскай медыцыны. На маё недасведчанае пытанне, што гэта будзе за інстытут, Чаўдхары адказаў:

— Гэта будзе свяшчэннадзейства, сюды прыедуць людзі, якія ўмеюць гэта рабіць. На аснове сістэмы ёгаў, карыстання травамі можна будзе лячыць розныя хваробы, у тым ліку наркаманію, што становіцца праблемай і для вашай дзяржавы таксама. Я маю "дабро" ад прэзідэнта Раджмані Тугная — прадаўжальніка вучэння Сварымама, які арганізаваў ва ўсім свеце гімалайскія інстытуты.

Што ж, пажадаем свяшчэннадзейства і Субхашу Чаўдхары ў яго справах, нашаму даўняму і добраму сябру, які ў цяжкі перыяд пераходу ад сацыялізму да новых формаў гаспадарання захаваў свае сімпатыі да славянскіх народаў. Сябру з краіны Індыі, дзе, як сведчыць друг Субхаша прафесар Белдзяржуніверсітэта С. Чубакоў, што ў свой час працаваў ва універсітэце імя Дж. Неру, ён ніколі не бачыў злога твару.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ**

*На здымку: В. Быкаў, С. Чаўдхары, М. Танк і В. Зуёнак падчас сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў (1990).*

ПАМЯЦЬ

# Апошняя з магіканаў

На небасхіле беларускага харэаграфічнага мастацтва згасла адна з самых яркіх зорак — Аляксандра Васільеўна Нікалаева. Балерына, педагог. Народная артыстка Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

Яна была дачкой прачкі. У паслярэвалюцыйныя гады іхняя сям'я ледзь не памерла з голаду ў Ленінградзе... Нікалаева была выхаванкай знакамітай Школы рускага балета, якой кіраваў мастацтвазнавец Акім Валынскі, і не менш знакамітага ленінградскага харэаграфічнага вучылішча. Яна была вучаніцай Віктара Сямёнава, Марыі Раманавай, Таццяны Вячаславай, Кацярыны Гейдэнрэйх. Першая партнёрка Вахтанга Чабукіяні і Канстанціна Сяргеева, якія неўзабаве зрабіліся сусветна знакамітымі танцоўшчыкамі. Аднакурсніца Сяргея Кораня і Феі Балабінай. Кожны з іх — цэлая эпоха, цэлы артыстычны свет...

У Ленінградзе на пачатку 30-х гадоў Аляксандра Нікалаева працавала ў трупе, дзе ажыццяўляў свае пастаноўкі Касьян Галяйзоўскі. "Дарагая Шурачка!" — менавіта так пачыналася віншавальная тэлеграма дасланая Галяйзоўскім у Мінск Нікалаевай ужо пасля вайны.

З 1934 года яе лёс звязаны з Дзяржаўным тэатрам оперы і балета Беларусі. Яна прыехала ў Мінск, дзе на Траецкай гары паводле праекта І. Лангбарда яшчэ толькі будаваўся тэатр. Прыехала на год, бо падпісала кантракт. Аказалася — на ўсё жыццё...

На гэтай сцэне яна была стваральніцай партый у першых нацыянальных балетах — Зоська ў "Салаўі" М. Крошнера і Надзейкі ў "Князь-возеры" В. Залатарова (менавіта апошняя роля была адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР, тады яна называлася Сталінскай).

На гэтай сцэне А. Нікалаева была непераўзыдзенай выканаўцай многіх класічных партый — Адыліі, Кітры, Зарэмы, Сванільды, Каламбіны, характарных танцаў у операх, беларускіх народных танцаў...

Усе, хто памятаюць Нікалаеву на сцэне, аднадушна гавораць пра яе незвычайны артыстычны тэмперамент, пра тое шчодрае, зіхатлівае свята, тое полымя, што падчас танца асвятляла ўсё вакол... Усе згадваюць іх непаўторны дуэт з Сямёнам Дрэчыным...

Удзельніца франтавых брыгад у час Айчыннай вайны. Удзельніца знакамітых Дэкад беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 і 1955 гадах. На працягу чвэрці стагоддзя вядучая артыстка балетнай трупы. Доўгі час — мастацкі кіраўнік і педагог харэаграфічнага вучылішча. У 60—80-ыя гады — кіраўнік народнай студыі класічнага танца Палаца культуры Белсаўпрофа, дзе яна была і пастаноўшчыкам, і рэпетытарам, і педагогам.

Лёс звычайна дорыць балерынам доўгае жыццё. І творчае, і чалавечае. Дастаткова згадаць зорак рускай імператарскай сцэны Тамару Карсавіну, Вольгу Спясіўцаву, Мацільду Кшэсінскую. Дастаткова згадаць нашых сучасніц Галіну Уланаву, Маю Плісецкую, Алісію Алонса, Марыну Сямёнаву. Нікалаева таксама пражыла жыццё доўгае і шчаслівае. Больш як 90 гадоў.

У яе лёсе галоўным быў танец. Адзін толькі танец. Адзін толькі балет. Адзін толькі тэатр. Спачатку быў балет — і тэатр. Потым — балет і вучылішча. Потым — балет і студыя.

Магчыма, іншаму чалавеку гэтага было б мала. І ён адчуваў бы сябе абдзеленым. Але Нікалаева была ў такой ступені грамадскім



чалавекам, што іншай долі сабе, напэўна, і не хацела. Пра іншую і не марыла.

Зоркі гаснуць... Але святло ад іх ляціць да зямлі і зямлян яшчэ доўгія гады. Нават калі самой зоркі ўжо няма.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Ігнату ДУБРОЎСКАМУ з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Веры Дзмітраўны Чарняўскай.**

Рыгор БАРАДУЛІН

# Дурноты

### НАПАДАЕ...

*Калі на паэта*
*Пісун нападае —*
*Чарніла плача,*
*Папера рыдае.*

### НЕРУКАТВОРНЫ

*Калі ідзе,*
*Як бронзавы, звініць,*
*Хоць зараз*
*Можа помнік замяніць.*
*Вось толькі*
*Не хапае аднаго —*
*Каб галубы абседзелі яго.*

### ЗНОЙДЗЕ...

*Парсючок,*
*Як сам сябе не кліч,*
*Як не тужся*
*Глянуць слепа ў неба,*
*Як за славай ні ўпадай,*
*Твой лыч*
*Тое знойдзе за вуглом,*
*Што трэба.*

### ПЯКУЧЫ ГНЕЎ

*Казаў акурак папяросе:*
*Казычаш ты*
*Начальству ў носе.*
*А я, як жар, гаспадару*
*І ўвесь ад сораму гару*
*За дым,*
*Бо дым, як падхалім,*
*Без мыла*
*Лезе ў вочы ўсім.*

### ПРЫВАТЫЗАТАР

*Шэкспіра*
*Ён прыватызуе*
*І шчыра*
*Прымітывізуе.*

### ШХУН

*Яго таемна точыць пыха,*
*Ён ні на кога не зароў.*
*Кіруе ціха,*
*Творыць ціха*
*І ціха прадае сяброў.*

### НЕ ЛЮБОЙ

*Не любой сустрэчы*
*Радуйцеся, лоўчыя.*
*За губой заечай*
*Часта зубы воўчыя.*

### ЯК ЗАЎСЁДЫ...

*Няма сумніву —*
*Ён даўно гатоў,*
*Указ чарговы,*
*Як заўсёды, смелы,*
*Што трэба*
*Перафарбаваць буслоў,*
*Бо кожны бусел*
*Бел-чырвона-белы!*

### ПРЫЖЫЦЦЁВЫЯ

*Прывыкшы дзьмуцца*
*і дуракаваць,*
*Літаратурныя дэмагогі*
*Спяшаюцца дзённікі*
*друкаваць —*
*Як прыжыццёвыя*
*некралогі.*

### АД ДУШЫ...

*А сябраваць жаўрук*
*Не будзе з груганнём.*
*З сустрэчай не вітаецца*
*расстанне.*
*Паэт, як хатні сыр, —*
*Чым большым камянём*
*Націснуць ад душы,*
*Тым ён свяжэйшы стане.*

### НАРОД І ПЛОТ

*Жыццё — гарод,*
*А вокал плот.*
*За плотам*
*табуном народ.*
*Ды плот не ў перашкоду*
*Табуннаму народу.*
*Народу ў насалоду*
*Хоць як*
*Ды ўбіцца ў шкоду.*

### ПЫШКІ

*А ў мапасанаўскае Пышкі*
*Шмат паслядоўнікаў —*
*Усе,*
*Хто хоча вылупіцца*
*ў шышкі,*
*Сябе з ахвотаю нясе*
*Таму, ў каго*
*З уладнай шышкі*
*Лягчэй падскочыць*
*Трошкі ўвышкі.*
*І драматургі, і паэты*
*Прыдатныя на штукі*
*гэты.*

### НА СПОВЕДЗІ

*Пытае святар маладзіцу*
*Крадком:*
*— Прызнайся,*
*Ты спала*
*з чужым мужыком?*
*Адказвае маладзіца:*
*— Ды дзе ж*
*З чужым мужыком*
*заснеш!*

### НЕ КОЖНЫ...

*Хто ў легендзе жыве,*
*А хто кватаруе,*
*Плацячы дорага за арэнду.*
*Не кожны ўмее*
*легенду старую*
*На новую*
*Абмяняць легенду.*

### НАКОНТ ІНІЦЫЯТЫВАЎ

*І надыдзе такая пара —*
*Пры агульнанароднай*
*згодзе*
*Зноўку па прапанове цара*
*Сонца будзе ўзыходзіць*
*На ўсходзе!*

### СУМЯШЧАЛЬНІК

*Прыйшоўшы ад кумы,*
*Гуляка*
*На жончын*
*не зважаў дакор:*
*Па сумяшчальніцтве*
*й сабака*
*Аббрэхвае суседні двор!*

### САРАКАГАДОВІКАМ

*Сорак! — лічбу гэту*
*Ведае гарэлка.*
*А мужчыну, як і спірту,*
*Можна сто.*
*Дык страляйце, барды,*
*Ў песняцірах цэлка.*
*Творчы свет не горш*
*Ад цырка Шапіто.*

### ПЕРСПЕКТЫВА

*Шматтом'е Пегас*
*размяце хвастом.*
*Паэт, ты заручан*
*з глыбокай пашанай.*
*Адзін цябе пэўны*
*чакае том*
*У супервокладцы новай,*
*Драўлянай.*

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ

# "Кожны тут класік, а слава — бясчассе..."

Кажуць, яшчэ да паперавай эры вялікія сцвярджалі, што сапраўдная вядомасць да творцаў прыходзіць тады, калі ў іх пачынаюць шпурляць эпіграмы, пародыі, шпількі-падкавыркі: забіць не заб'еш, але прычоску падчапурыш нават лысым... Колькі сябе помню, быў у мяне гэткі клопат пра калег. А тут і лімаўцы падштурхнулі з нагоды з'езда. Датаў не стаўлю, бо — кожны тут класік, а слава — бясчассе.

**АЎТАР**

### Анатоль КЛЫШКА

*Пачаўся Клышка з буквара,*
*Як з неба птушка ці гара...*
*Хаця да гэтага жыў верша духам,*
*У крытыцы грымеў, як гром,*
*Пабегаў і за байкаром,*
*Як той за мухаю з абухам...*

### Вера ВЯРБА

*Пад вярбою Вера мыла ручнікі,*
*Сціпла ўсім назваўшыся Алёнай...*
*З ручнікамі пройдзе праз вякі!*
*Ад бялізны іншай... меней плёну.*

### Васіль ЗУЁНАК

*Ні хрыпатага слова, ні звонкага*
*Ад яго нам не прычакаць...*
*Яно проста яго, зуёнкава —*
*Як пячаць!*

### Кнігазбор і Кастусь ЦВІРКА

*Пад ціканне ўгару палезла гірка,*
*Адважваючы Кнігазбора Час,*
*Дзе Цвірка —*
*не ад абаранка дзірка,*
*Зноў даказаў: "Такія сэрцы ў нас!"*

### Уладзімір АРЛОЎ

*Валодзя наш з арлоў-барадачоў.*
*Ён птушка рэдкая,*
*даўно на зводзе...*
*Бо ўсё ляціць насуперак прыродзе*
*Заезджых Беларусі талмачоў.*

### Аляксей ДУДАРАЎ

*Пахадзіўшы ў "Радавых"*
*салдатам,*
*Апусціўся зараз ён да князя,*
*Да разбэшчаных*
*ажно магнатаў...*
*Недзе ў марах ужо лазіць*
*І па царскіх ён палатах!*

### Генрых ДАЛІДОВІЧ

*У творах Далідовіча ў Генрыха*
*Не Пікасо,*
*а бацькаўшчыны Герніка,*
*Дзе коней ржанне і пажар і ходнікі*
*Крывавыя, і беларусы ў споднiках,*
*І ўсё без лаянкі, бо,*
*ведама, заходнікі,*
*І аўтар таямнічасцю*
*ахутаны —*
*Прыкідваецца, што ўзышоў*
*на хутары...*

### Роспач А. ЖАЛЯЗОЎСКАГА

*Ідэйныя прытухлі маякі.*
*Былая пісаніна ўся да фені.*
*Не камсахлопчык.*
*Не жалезны Фелікс.*
*І позна станавіцца на канькі.*

### Атлантавы зігзагі...

*Атлантам быў заўжды*
*І. П. Шамякін!*
*Ды нешта перайначвацца*
*стаў рана —*
*Падпоркай робіцца*
*для графаманаў,*
*Што бегаюць наўкол яго,*
*як шаўкі:*
*Іван Пятровіч нанач іх і нашча,*
*Як піянер,*
*гатовы ўсюды лашчыць.*

### Ходзяць чуткі...

*Марчук Георгій не Хеопс,*
*Не эМэМэМаўская піраміда,*
*А свет здзівіў, калі сабраў і выдаў*
*У кніжыцы адной... зямны хаос.*
*Калі ж хаос ён выдавецкі спыніць,*
*То для яго ўсе піраміды*
*будуць міні...*

### Васіль БЫКАЎ

*Я ўсё народнае люблю!*
*Газету нават...*
*Ды засведчыць рады:*
*Як што — я ўласнае пяро ступлю,*
*Ваюючы з народнаю няпраўдай...*

### Іван НАВУМЕНКА

*Рознай прозы ў яго многа.*
*Быццам граф, ён просты.*
*Ён увесь у Льва Талстога*
*Нават тым... што тоўсты.*

### Інтымнае для А.

*Бывайце...*
*Прарасту мо коласам...*
*Пахваліць іншы Вас і ўсцешыць:*
*Пакуль Вы чаравалі голасам,*
*Я... утапіўся ў Вашых вершах.*

### Пытанне — адказ

*Дзе падзеўся Л. Дайнека,*
*На якіх шыротах-радыусах?*
*Не відаць яго даўненька,*
*Бо гатуе, кажуць, градусы*
*Памяркоўна ўдумнай моцы*
*Для народа і для творцаў.*

### Міні-крытыка

*Захварэўшы Дастаеўскім,*
*Ён застаўся Федарэнкам,*
*Бо тапор пасёк на трэскі,*
*А не сёк старога з енкам —*
*Што засведчыў*
*нам "Цугцванг".*
*Ён па-свойму ў прозе маг.*

### Паэтычныя жахі Л. ГАЛУБОВІЧА

*У вёску родную,*
*хоць ты не едзь:*
*Скрабецца мыш у куце,*
*як мядзведзь.*
*На пашу выйдзеш — апануе жах:*
*Пішчыць трава*
*ў кароваў на зубах.*
*У хлеў усунешся —*
*б'е хлеў па галаве:*
*Бычок у жываце зноў зараве...*

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

### Адольф ВАРАНОВІЧ

*Адольф і мастаком бы стаў,*
*Ды дзе набрацца грошай, браце!*
*На фарбы — ганарар аддаў...*
*А валасы — на пэндзлікі патраціў?*

### Аляксандр САСНОЎСКІ

*Ён трубкай пыхкае сваёй —*
*Упарта цягне, без халтуры,*
*Воз міністэрскі за сабой,*
*Нібы лакаматыў культуры.*

### Анатоль КУДРАВЕЦ,

старшыня літаратурна-мастацкага фонду "Нёман"

*Стаў родным яму гэты край —*
*"Панямоннем" ён захапляецца.*
*Б'е энергія ў ім цераз край:*
*З фонду ў "Нёман" пераліваецца!*

### Мікола МАЛЯЎКА, Мікола ЧАРНЯЎСКІ

*У рэдакцыі "Вясёлкі"*
*Ёсць адразу два Міколкі.*
*Не якія там маляўкі,*
*А Чарняўскі і Маляўка.*
*Клопат іх надзённы,*
*першы —*
*Дзецям даць як болей вершаў.*
*Каб рэдактар строгі, зоркі*
*Ставіў ім адны пяцёркі!*

### Іван ДРОЗД,

член рады Рэспубліканскага літаратурна-мастацкага фонду "Гронка"

*На свет з'явіўся ён якраз*
*У дзень святочны, у жаночы.*
*Яго, няйначай, выбраў час,*
*Бо гэта ж лёсу*
*знак прарочы.*

*Наш Янка з дамамі на "ты",*
*Бяседы, справы ўмее весці,*
*Ну а яны — не ён! —*
*заўжды*
*У гэты дзень нясуць тарты*
*І пуд цукерак, з ім каб з'есці.*
*Вядзецца гэтак з году ў год.*
*Жанчын любімец і абраннік —*
*Не Дон Жуан, не Дон Кіхот,*
*Іван —*
*сапраўдны прадпрымальнік!*

### Алесь ЖУК

*Алесь ні ў чым не прагадаў,*
*Што трапіў з "Полымя"*
*ды ў "Нёман":*
*Ён загартоўку атрымаў,*
*Плывучасць, смеласць паказаў*
*І будзе з рыбкаю, вядома...*

### Сяргей ЗАКОННІКАЎ

*Паэт лірычны і мудрэц, —*
*Ад Бога талент,*
*без сумнення! —*
*Ён песціць "Полымя",*
*як жрэц —*
*Агонь гаючы ачышчэння.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2332-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2332-525, 2331-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2332-525 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2331-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2332-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2331-985 |
| паэзіі і прозы — | 2332-204 |
| музыкі — | 2332-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2332-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2332-462 |
| навін — | 2332-462 |
| мастацкага афармлення — | 2332-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2332-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4275
Нумар падпісаны ў друк 22.4.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 2238/Г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12